*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 41 (201)
12 кастрычніка 1994 г.
Кошт — 40 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **У ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ ПАСЯДЖЭННЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЫСТУПІЎ З ПРАГРАМАЙ НЕАДКЛАДНЫХ МЕР ПА ВЫХАДУ ЭКАНОМІКІ НАШАЙ КРАІНЫ З КРЫЗІСУ.** Дакумент прадугледжвае шэраг жорсткіх рынычных мер, якія, па задуме яго стваральнікаў, павінны да сярэдзіны наступнага года знізіць інфляцыю да 7-8 працэнтаў у месяц, спыніць падзенне вытворчасці і зніжэнне ўзроўню жыцця. Праграму ацэньваюць як рыначную нават апанентьі Прэзідэнта з парламенцкай апазіцыі. Пасля абмеркавання праграмы дэпутаты прынялі пастанову з трох пунктаў: ухваліць праграму, рэкамендаваць Кабінету Міністраў улічыць выказаныя парламентарыямі заўвагі і прапановы і даручыць дэпутацкім камісіям неадкладна разгледзець прапановы Прэзідэнта па «змяненню і дапаўненню законаў, рэгулюючых эканамічную дзейнасць».

❍ ***У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ СТВОРАНА НОВАЯ ПАРЛАМЕНЦКАЯ ФРАКЦЫЯ «ГРАМАДЗЯНСКАЯ ЗГОДА».*** *Уяе ўвайшлі каля 30 народных дэпутатаў, у тым ліку Дзмітрый Булахаў, Анатоль Лябедзька, Васіль Даўгалёў і іншыя.*

❍ **У ШТАБ-КВАТЭРЫ ААН У НЬЮ-ЙОРКУ Ў РАМКАХ 49-Й СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ УЛАДЗІМІРА СЯНЬКО З ГЕНЕРАЛЬНЫМ САКРАТАРОМ ААН БУТРАСАМ ГАЛІ.** У ходзе сустрэчы былі закрануты пытанні ўдзелу нашай краіны ў эканамічным, сацыяльным і іншых накірунках дзейнасці гэтай уплывовай арганізацыі.

❍ ***МІНІСТЭРСТВАМ ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАРЭГІСТРАВАНА БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАРТЫЯ.*** Галоўнае ў праграме партыі — нацыянальная ідэя.

❍ **АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА КІРАЎНІЦТВА СВАБОДНАГА ПРАФСАЮЗА СТУДЭНТАЎ БДУ І ЗАДЗІНОЧАННЯ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ З СТАРШЫНЁЙ ВЫКАНКАМА РАСІЙСКАГА САЮЗА «СТУДЕНЧЕСКАЯ ЗАЩИТА» ДЗМІТРЫЕМ КАСТЭНКАМ.** Вынікам перамоў стала дамоўленасць аб супрацоўніцтве, узаемадзеянні пры правядзенні акцый і абмене інфармацыяй.

❍ ***УРАМКАХ ДЗЁН ЧЭХІІ Ў БЕЛАРУСІ*** ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры (вул.Я.Купалы, 27) працуе выстава «Чэшская рэспубліка — партнёр для вас».

*НАСТАЎНІК: ПАКУТЫ ЎЧОРА І СЁННЯ*
Стар. 2

*У НАС — СВОЙ АПАРТЭІД?*
Стар. 2—3

*У ГАЗЕТАХ*

## ПЕРШ-НАПЕРШ МЫ ПАВІННЫ НАВУЧЫЦЦА ПАВАЖАЦЬ СЯБЕ

«Паважаць саміх сябе» — так называлася гутарка з Анатолем Лябедзькам, намеснікам старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах сям'і і моладзі, адным з актыўных памочнікаў нашага Прэзідэнта, змешчаная ў газеце «Культура» (№ 38, 21 верасня г.г.).

На пытанне карэспандэнта Наталлі Кірпічэнкавай: «У чым Вам бачыцца нашае духоўнае адраджэнне, а тым самым — культурнае і эканамічнае?» А.Лябедзька адказаў, што перш-наперш мы павінны навучыцца паважаць сябе. І калі гэтага дасягнём, то абавязкова будуць добрыя змены. На думку маладога палітыка (Лябедзьку 33 гады), шматлікія негатыўныя фактары сённяшняй рэчаіснасці абумоўлены ў першую чаргу тым, што на працягу даволі доўгага гістарычнага перыяду беларусы не мелі ўласнай дзяржаўнасці.

Карэспандэнт спытала таксама, ці маем мы грунтоўную канцэпцыю культурнага развіцця? Суразмоўца адзначыў, што культурная палітыка шмат у чым будзе вызначацца глыбінёй разумення яе праблем групай кіраўнікоў, якія працуюць побач з Прэзідэнтам. Далей А.Лябедзька запэўніў, што віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар (курыруе сацыяльна-культурны блок) — чалавек інтэлігентны і высокаадукаваны, які, дарэчы, добра разумее беларускую мову, гаворыць на ёй, хоць пакуль і не мае трывалай моўнай практыкі. Што да стратэгічнай канцэпцыі культурнага развіцця, то яна, як лічыць палітык, будзе залежаць не толькі ад Міністэрстваў культуры і друку і адукацыі, і ад новай структуры пры прэзідэнцкім савеце, куды ўвойдуць аўтарытэтныя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі нашай краіны.

## У ЗАМЕЖНЫХ ШКОЛАХ ПАВЫШАНАЯ ЎВАГА ДА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

«Настаўніцкая газета» (№ 76, 21 верасня г.г.) апублікавала аналітычны артыкул «На трывалай нацыянальнай аснове» старшага навуковага супрацоўніка Нацыянальнага інстытута адукацыі, кандыдата педагагічных навук, дацэнта Уладзіміра Андрэева. Аўтар у выніку вывучэння лепшых сістэм школьнага навучання, якія эфектыўна працуюць у розных краінах свету, прыйшоў да высновы, што зараз у замежных школах назіраецца павышаная ўвага да трывалых нацыянальных традыцый. Так, у Японіі адукацыйны працэс ва ўсіх — з першага па дванаццаты класы — абапіраецца на філасофскае вучэнне Канфуцыя, які жыў за пяць стагоддзяў да н.э. і сцвярджаў, што сапраўдная мудрасць — у веданні старадаўніх кніг (яны далучаюць да гістарычнага вопыту мінулых пакаленняў), што, акрамя таго, добрая адукацыя непазбежна робіць людзей лепшымі.

Аб вялікай увазе да праблем школьнай асветы сведчаць і наступныя красамоўныя факты, якія прыведзены ў артыкуле. Напрыклад, толькі ў ФРГ зараз налічваецца 62(!) навукова-даследчых інстытуты адукацыі. А агульную каардынацыю педагагічнага вопыту перадавых заходніх краін цяпер бяруць на сябе міжнародныя цэнтры: Міжнародны інстытут адукацыі (ЗША), Цэнтр даследаванняў па параўнальнай педагогіцы (Англія), Міжнародны інстытут педагагічных даследаванняў і інш. Для параўнання У.Андрэеў падкрэслівае, што нашы педагагічныя НДІ і ВНУ ў сучасных умовах глыбокага эканамічнага крызісу матэрыяльна не забяспечаныя, знаходзяцца амаль на становішчы жабракоў.

Аўтар засяроджваецца і на тым, што на Беларусі з дырэктыўных дакументаў у галіне асветы ўжо знікла ранейшае палажэнне аб абавязковай сярэдняй адукацыі. Але, вызваліўшыся ад прэсінгу абавязковага поўнага навучання, нашы школы сёння шырока практыкуюць найбольш лёгкі для сябе шлях — проста пазбаўляюцца ад так званых цяжкіх вучняў, а недавучкі звычайна траплялюць у злачынны свет. І гэта, як адзначана ў артыкуле, робіцца ў той час, калі ва ўсіх індустрыяльных краінах свету акрэслена вызначылася тэндэнцыя поўнай (базавай) сярэдняй адукацыі, бо таго настойліва вымагаюць перш за ўсё ўмовы сучаснай вытворчасці, дзе заўтра стануць працаваць выпускнікі. Так, у ЗША, Англіі, ФРГ, Францыі і Японіі сёння 70—90 працэнтаў рабочых месц патрабуюць ад прэтэндэнтаў адукацыі ў аб'ёме закончанай сярэдняй і наступнай школы. Напрыклад, яшчэ адміністрацыя прэзідэнта ЗША Буша паставіла агульнанацыянальную задачу да 2000 года выйсці на ўзровень стопрацэнтнай поўнай сярэдняй адукацыі моладзі.

Аўтар артыкула знаёміць таксама з сістэматычным пераглядам школьных праграм у перадавых заходніх краінах, выкліканым сацыяльнымі запытамі грамадства. Ён, у прыватнасці, піша, што зараз у школах Англіі да паловы навучальных гадзін адведзена абавязковым для ўсіх прадметам, куды ўваходзяць англійская мова і літаратура, матэматыка, рэлігія (этыка), фізічная культура. А другая палавіна аддадзена прадметам па выбару вучняў і іх бацькоў, якія складаюцца з «пакетаў» — курсаў гуманітарнага, прыродазнаўчанавуковага або матэматычнага зместу. Але ў абодвух выпадках нацыянальныя культурныя традыцыі абавязкова ўлічваюцца. І агульны поспех дасягаецца найперш таму, што лепшыя сучасныя школьныя праграмы індустрыяльных краін свету грунтуюцца на трывалай нацыянальнай аснове.

М.В.

МЕРКАВАННІ

# НАСТАЎНІК: ПАКУТЫ ЎЧОРА І СЁННЯ

*Настаўніка прынята называць даверанай асобай дзяржавы, грамадства. Каб лепш зразумець сучаснае становішча яго, варта, відаць, глянуць у наша нядаўняе мінулае.*

Бальшавікі пасля захопу ўлады дзесяцігоддзямі рабілі настаўнікаў паслухмянымі праваднікамі імперска-таталітарных дактрын і мэт. А У.І.Ленін увогуле разглядаў настаўнікаў толькі ў якасці «агентаў камуністычнай адукацыі і асветы». У сваёй абсалютнай большасці настаўніцтва ад слова выконвала ўсё, што ад яго патрабавала партыя. І не толькі таму, што баялася страціць заробак, а найперш таму, што само верыла ў святасць партдырэктыў. Гэта адбывалася, падкрэслім, у той час, калі матэрыяльнае становішча работнікаў асветы ўстойліва знаходзілася амаль на крытычнай адзнацы.

Каб канчаткова зламаць настаўніцтва і зусім паставіць яго на калені, бальшавікі свядома даводзілі настаўнікаў да апошняй мяжы. Так, на Усебеларускім з'ездзе работнікаў асветы (травень 1924 года) адзначалася, што заробак настаўнікаў займае адно з апошніх месц (рэальна і ў суадносінах да даваеннага, г. зн. у параўнанні з 1913 годам). У БССР тады меліся цэлыя раёны, дзе штомесячная заработная плата, роўная 8—10 рублям, ім не выдавалася на працягу квартала. Да ўсяго настаўнікам забаранялася мець дадатковы заробак. «Барацьба з сумяшчальніцтвам павінна быць пастаўлена на сталы грунт», — падкрэслівалася ў дакументах згаданага з'езда.

Разлік аказаўся верным: настаўнік-жабрак вельмі хутка ператварыўся ў паслухмяную марыянетку, якой зручна кіраваць у зададзеным накірунку. Цікавым і паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца артыкул В.Нодэля «Ближайшие задачи работников просвещения Белоруссии» (1924). Аўтар вызначае працу настаўніка толькі ў адзінстве з палітыкай, а на вёсцы — у «переработке мозгов крестьянства». Па-камуністычнаму бясплатна тады паўсюдна працавалі настаўнікі і ў хатах-чытальнях, пазашкольных гуртках, арганізуючы на месцах бясконцыя масавыя кампаніі, мэта якіх — замацаванне антычалавечага таталітарнага рэжыму.

Настаўніка дзесяцігоддзямі паслядоўна і метадычна ператваралі ў паднявольную асобу. Таму і пашыраная, напалову зняважлівая афіцыйная назва іх «шкрабы» (школьныя работнікі) адпавядае сэнсу рэальнага становішча і працы ў школах. Далей палітычны ўціск настаўніцтва яшчэ больш узмацніўся. Так, у 1934 годзе загадам па Народнаму Камісарыяту Асветы (НКА) «Аб выхаваўчай рабоце» рэзкай крытыцы падвергнуты настаўнікі, якія «дабіваюцца толькі вузка адукацыйных мэт, даюць фармальныя веды, не прадумваюць урокі з пункту гледжання камуністычнага выхавання».

Вельмі паказальным у адносінах да ідэалагічнай рэвізорскай дзейнасці партыйных функцыянераў з'яўляецца загад НКА № 68 ад 15.01.1935 года «Аб становішчы бібліятэчнай работы ў Крупскім раёне». Сутнасць яго ў тым, што ў Халопеніцкай хаце-чытальні з фондаў чамусьці зніклі творы Леніна і Сталіна. Загадчыкі Крупскай раённай бібліятэкі і Халопеніцкай хаты-чытальні былі звольнены з працы і аб'яўлены класавымі ворагамі. Загадчык Крупскага райана Баканаў «за страту класавай пільнасці і бяздзейнасць» быў пераведзены на працу настаўнікам пачатковай школы ў глыбінную вёску. Пра гэта, дарэчы, пісала газета «Звязда» 26 снежня 1934 г. Рэзкі артыкул называўся «У Халопенічах творы Леніна і Сталіна пад забаронай».

Прымусовая падпіска на газеты і часопісы, зафармалізаванасць школьнай работы, папяровая валакіта пастаянна з'яўляліся абавязковымі спадарожнікамі жыцця настаўнікаў. А тагачасныя метадысты настойліва раілі «шкрабам» весці сшыткі на кожнага вучня (Салаўёў І.М., Мазур П. і Калінічэнка М. прыдумалі нават іх форму аж з 17 графаў). Спробы аднавіць практыку складання персанальных палітычных «дас'е» на вучняў назіраліся і ў сямідзесятых гадах.

Школьная педагогіка, агульная метадалогія выкладання ўсіх прадметаў у нас ствараліся пад дыктоўку партфункцыянераў. Апошнія вызначалі: па якіх падручніках вывучаць гісторыю, якія фільмы пра выкрыццё шпіёнаў і кулакоў беднякамі паказваць дзецям. Кожны падручнік ацэньваўся ў першую чаргу з боку ідэалагічнай адданасці партыйным дактрынам і курсу бягучай партыйнай палітыкі. Так у загадзе № 1333 «Аб выкарыстанні ў бібліятэках падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі (1934 г.)» даецца спіс кніг выключна па расійскай гісторыі. Таму з поўным правам можна лічыць настаўніка ахвярай камуністычнага рэжыму. Але ж да ахвяр варта ўсё ж ставіцца са спачуваннем і разуменнем, паважаючы іх чалавечую годнасць і гонар.

На жаль, нядаўнія падзеі пераконваюць у адваротным. Нашы настаўнікі загаварылі, нарэшце, уголас аб сваім надзвычай цяжкім сучасным становішчы, якое не дазваляе належным чынам выконваць іх прафесійныя і грамадзянскія абавязкі. Яны вырашылі страйкаваць, змагацца за свае чалавечыя правы. Справа ў тым, што цяперашні заробак работнікаў школ не дазваляе нават сяк-так звесці канцы з канцамі. Я гэта ведаю з уласнай практыкі і з жыцця калег. Але настаўніцкі страйк адмянілі зверху, кінуўшы малазначную аднаразавую грашовую падтрымку. Няўжо настаўніку зноў давядзецца прыстасоўвацца, зноў паслухмяна маўчаць, апускаючыся яшчэ на больш нізкую прыступку свайго незайздроснага лёсу? Чаму не разумеюць нашы ўлады, што настаўніцтва адказнае за заўтрашні дзень нацыі і таму дзяржава абавязана клапаціцца аб ім?

**Ала КАЖЭРА,**
**старшыня настаўніцкага камітэта «Думка» пры ТБМ імя Ф.Скарыны, сябра выканкама БСДГ.**

# ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў КАСТРЫЧНІКУ

**1 кастрычніка.** Споўнілася 50 гадоў з дня стварэння Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра.

**2 кастрычніка.** 175 гадоў з дня нараджэння А.Незабытоўскага (1819—1849), беларускага пісьменніка, філосафа, гісторыка.

**18 кастрычніка.** Сёлета спаўняецца 430 гадоў з часу выдання (1564) у Брэсце «Размовы паляка з літвінам» — аднаго з першых друкаваных свецкіх твораў, выдадзеных на Беларусі.

**20 кастрычніка.** Сёлета спаўняецца 300 гадоў з пачатку работы (1694) беларускага гравёра і друкара В.М.Вашчанкі ў друкарні магілёўскага багаяўленскага брацтва (працаваў там да 1730 г.).

**21 кастрычніка.** Сёлета спаўняецца 210 гадоў з часу выхаду (1784) у Магілёўскай прыдворнай друкарні на польскай мове «Беларускага календара» (выходзіў да 1795 г.).

**22 кастрычніка.** 80 гадоў з часу выдання (1914) у Менску беларускага часопіса для моладзі «Лучынка» (выйшла 6 нумароў).

**23 кастрычніка.** 70 гадоў з дня нараджэння І.Я.Лепешава, беларускага мовазнаўца, доктара філалагічных навук.

**25 кастрычніка.** 130 гадоў з дня нараджэння А.Ц.Грачанінава (1864—1956), кампазітара, аўтара апрацовак беларускіх народных песень.

**26 кастрычніка.** Сёлета спаўняецца 120 гадоў з часу заканчэння будаўніцтва (1874) у Менску касцёла Святога Роха на Залатой Горцы (будаўніцтва пачата ў 1861 г.).

**28 кастрычніка.** 110 гадоў з дня нараджэння Ф.П.Ждановіча (1884—1942), беларускага акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

АЛЕ!

# У НАС — СВОЙ АПАРТЭІД?

*Ужо не першы год у Беларусі адбываецца працэс пашырэння ўжывання дзяржаўнай мовы. Але ж вакол нас жыве мноства людзей, для якіх яна не проста дзяржаўная, а родная і адзіная. Як складваецца іхні лёс у грамадстве, якое нарэшце стала прыхільным да беларушчыны?*

*Сённяшняя публікацыя — спроба разгляду адной з праблем, якія паўстаюць перад гэтымі людзьмі.*

**Пяць гадоў таму ў Гомелі быў створаны першы ў горадзе беларускамоўны дзіцячы садок. Ініцыятарамі гэтай справы стала група энтузіястаў, у ліку якіх была і нядаўняя студэнтка Гомельскага універсітэта Таццяна Ермаковіч. Адпрацаваўшы ў садку пару гадоў, яна пераехала ў сталіцу, выйшла замуж, гадуе ўласнае дзіця і цяпер пазнаёмілася з праблемай, якую сама калісьці вырашала для іншых.**

— Беларускі садок, у якім я калісьці працавала сама, быў створаны пры заводзе «Гомсельмаш». Туды хадзілі дзеці работнікаў завода, усе былі свае, мясцовыя. І хаця да прыняцця Закона аб мовах тады яшчэ было далёка, большасць людзей, асабліва дзеці, прыязна ставіліся да прынятай намі моўнай канцэпцыі. Я гавару аб моўнай канцэпцыі таму, што супрацоўнікі садка жадалі большага, чым навучыць дзяцей некалькім словам па-беларуску, як гэта робіцца цяпер у шмат якіх дашкольных установах. Мы спрабавалі стварыць нешта большае — беларускае асяроддзе ў садку. Мы не вучылі дзяцей асобным словам, а гаварылі з імі па-беларуску, заахвочвалі і іх, і бацькоў. Вялікую падтрымку садку аказвалі і людзі, блізкія да нацыянальнага руху, — гомельская суполка «Талака», іншыя нефармальныя на той час арганізацыі. І, канешне, мы адчувалі падтрымку бацькоў нашых дзетак.

Але, акрамя падтрымкі бацькоў, я бачыла іхні непакой. Бо ж тады, у БССР, беларускіх школ, кніг, тэлепраграм рабілася ўсё менш. Дзяржаве не была патрэбна беларушчына, і асобныя людзі задумваліся: навошта гэтая спроба вярнуць тое, што нішчыцца? Ці бяспечна яна?

З таго часу мінула чатыры гады. І не так даўно я сама павяла сваю маленькую дачку ў садок. Што з таго атрымалася? Напачатку было цяжка знайсці беларускі дзіцячы садок — і гэта ў сталіцы самастойнай Беларусі, у час, калі даўно ўжо дзейнічае Закон аб мовах! Нарэшце, у раённым аддзеле народнай адукацыі мне падказалі, куды звярнуцца, нават дапамаглі, пачуўшы, што маё дзіця гаворыць па-беларуску.

Але далей, на жаль, я адчула вялікае расчараванне: групы з беларускай мовай там створаны толькі для дзяцей ва ўзросце звыш трох гадоў. А з дзецьмі ад паўтара да трох гадоў выхавацелі гавораць па-расійску. Інструкцыі гаварыць з дзецьмі па-беларуску там не атрымалі. А для майго дзіцяці гэта стварае страшэнныя праблемы. Занятcontinue ў групе вядуцца на расійскай мове, якой малая не разумее, — дома ў мяне ўсе гавораць па-беларуску. У групе яна адзіная беларускамоўная, а значыць, амаль не можа гаварыць з іншымі дзецьмі, а тыя — з ёй. На роднай мове да яе звяртаюцца толькі выхавацель і няня, але ж гэтага замала. Бо ў такім узросце — два з паловай гады — дзіця мусіць паразумовацца з іншымі дзецьмі — гэта ўмова фармавання інтэлекту.

Я разумею выхавацеляў, якія працуюць так, як ім загадалі. Я разумею, што з-за аднаго дзіцяці ніхто не будзе патрабаваць ад двух дзесяткаў іншых ды ад іхніх бацькоў вучыць беларускую мову. Я разумею, што раптам стварыць моўнае асяроддзе немагчыма. Але хто зразумее мяне і маю дачку? Я прыходжу ў садок і бачу: яна пакормлена і дагледжана, але існуе там, як у рэзервацыі. Яна на вачах робіцца ўсё больш маўклівай, бо пазбаўлена галоўнага — разумення. Ёй патрэбна штось большае, чым гадзіна ў тыдзень, на працягу якой дзецям чытаюць беларускую казку.

Я ведаю: сёння дашкольныя ўстановы, ды і не толькі яны, арыентуюцца на тых, для каго беларуская мова — замежная. Але хто дапаможа беларускамоўным дзецям? Якой вырасце мая дачка, якая сярод аднагодкаў адчувае сябе прадстаўніком нацыянальнай меншасці? І самае галоўнае. Нядаўна я гаварыла з метадысткай садка, у які ходзіць мая малая. Гэта адбылося неўзабаве пасля вядомага выступлення Прэзідэнта ў педагагічным універсітэце. І я ўбачыла яе занепакоенасць тым, ці не будуць спынены нават тыя сціплыя крокі іх садка да беларушчыны, якія ўжо былі зроблены.

Апошнім часам, прыводзячы дачку дадому, я заўважыла: у яе мове пачалі мільгаць чужыя словы — і гэта ў час, калі адраджэнню мовы спрыяе дзяржава. А калі ўрад зменіць сваё стаўленне да нас — ці не апынёмся мы ў нейкім моўным гета?

**З просьбай выказаць сваё стаўленне да гэтай праблемы карэспандэнт «Нашага слова» звярнуўся да Луізы Гаруновіч, загадчыцы кафедры методык дашкольнага выхавання факультэта дашкольнага выхавання Беларускага педагагічнага універсітэта.**

— Ну чаго ж вы хочаце, калі наш Прэзідэнт аўтарытэтна з трыбуны заявіў, што неабходна захаваць ранейшы статус расійскай мовы? Не скажу нічога кепскага аб мове нашых суседзяў, але што пасля гэтага рабіць тым, хто гаворыць па-беларуску?

Сёння перад намі паўсталі дзве праблемы. Першая — пашырэнне кола ўжывання беларускай мовы. Другая — наданне магчымасці выкарыстання сваіх правоў беларускамоўнай часткі насельніцтва. Бо ж склалася парадаксальная сітуацыя: Прэзідэнт гаворыць пра неабходнасць абароны расійскамоўных беларусаў у той час, як тыя, што карыстаюцца роднай мовай, не маюць магчымасці нават аддаць дзіця ў садок адпаведнай моўнай арыентацыі!

Сёння сітуацыя ў значнай частцы дашкольных устаноў краю выглядае так: іх наведваюць дзеці, якія растуць у моўным асяроддзі,

# ЛІТАРАТУРА ЗША Ў ЛЮСТЭРКУ СЛОВА

(Гутарка з выкладчыкам Менскага лінгвістычнага універсітэта, кандыдатам філалагічных навук Ю.В.Стулавым)

**— Юрый Віктаравіч, па адукацыі Вы лінгвіст, але асноўны накірунак Вашых навуковых прац — гэта амерыканская літаратура. Як адбыўся выбар?**

— Хоць па адукацыі я сапраўды лінгвіст, але мяне заўсёды цікавіла літаратура. І калі надышоў такі час, што трэба было вызначыцца з навуковымі інтарэсамі, я выбраў амерыканскую літаратуру. Дарэчы, мова — гэта толькі сродак, пры дапамозе якога можна пранікнуць у псіхалогію, культуру іншага народа, але толькі літаратура дапамагае спасцігнуць ягоную душу. Ну, а амерыканцы як нацыя мяне зацікавілі вельмі даўно. Іх энергія, прадпрымальнасць, светапогляд.

**— Дык што ж гэта за феномен, амерыканская літаратура, на якім фундаменце яна пачала развівацца?**

— Яе фундамент — Біблія. Амерыканская літаратура пачала развівацца толькі ў канцы XVIII-на пачатку XIX стагоддзя. Да гэтага часу не існавала такога паняцця. Трэба сказаць, што тая літаратура, якая толькі пачала фарміравацца ў Злучаных Штатах Амерыкі, да літаратуры як мастацтва слова мела вельмі невялікае дачыненне. Сярод першых кніг, выдадзеных у Амерыцы, былі рэлігійныя трактаты, кніжкі псалмоў, а таксама іншыя публікацыі, у якіх, з пункту гледжання пурытанскай маралі, трактаваліся розныя паняцці веры. Гэта адзін накірунак развіцця амерыканскай літаратуры ў XVIII стагоддзі. Другі — з'яўленне кніг, якія апісвалі абрады індзейцаў, іх узаемаадносіны з белымі людзьмі і таму падобнае.

**— Але ж, відаць, ужо ў раманнай форме, як, скажам, у Англіі ў той час?**

— Яшчэ не. Адзінай кнігай, якая лічылася мастацкім творам, была Біблія. Таму практычна нават калі мы возьмем кнігу якога-небудзь амерыканскага пісьменніка XX стагоддзя, без ведання Бібліі нам будзе цяжка зразумець розныя нюансы. Бо што такое Новы свет? Гэта абетаваная зямля — там, дзе чалавек будзе свабодны. Гэта з'яўляецца ключавым паняццем амерыканскай літаратуры.

**— А Адам і Ева? У біблейскім паняцці адносіны паміж мужчынам і жанчынаю ці ўсё ж тут пераадолела рэчаіснасць?**

— Гэта таксама важнае паняцце ў амерыканскай літаратуры. І Адам у ёй застаўся нявінным. Гэта ў розных варыянтах ёсць ва ўсёй амерыканскай літаратуры. Мы заўсёды бачым юнака, які для сябе адкрывае, што ў свеце ёсць дабро і ёсць зло, але дабро заўсёды павінна перамагчы. Таму ў амерыканскіх раманах у сваёй большасці шчаслівы канец. Калі паглядзець нават на галоўных герояў раманаў такога рэаліста, як Эрнэст Хемінгуэй, мы ўбачым, што гэта заўсёды па-свойму нявінны чалавек. Нявінны і нават у нейкім сэнсе наіўны. Звярніце ўвагу, Грэм Грын, англійскі пісьменнік, гэта цудоўна адлюстраваў у сваім знакамітым рамане «Ціхі амерыканец». Ён паказаў тыповага амерыканца па сваім светапоглядзе, з-за якога загінула шмат людзей, але той гэтага нават не заўважыў, бо верыў толькі тым догмам і паняццям, якія сфарміраваліся ў яго галаве, бо выконваў сваю «амерыканскую» місію. Можна прывесці больш сучасны прыклад. Раман вядомага амерыканскага пісьменніка Уільяма Стайрана «Выбар Соф'і». У ім раскрываюцца два падыходы да такіх паняццяў, як смерць і жыццё. Асноўная дзея адбываецца пад час Другой сусветнай вайны ў Польшчы. Галоўная гераіня рамана Соф'я — полька па нацыянальнасці. Яна была пастаўлена перад цяжкім выбарам. Калі яе забралі ў канцлагер, яна магла ўзяць з сабой толькі адно са сваіх дваіх дзяцей, і, такім чынам, яна як бы сама вымушана была адправіць уласную дачку ў газавую камеру, бо за ёй быў выбар. Гэта псіхалагічна знішчыла няшчасную жанчыну. Але вось што адметна: у рамане Соф'я не проста выступае як постаць асобнай жанчыны-маці. Яна нагадвае Еўропу, якая прайшла праз шматлікія страты і пакуты, выпрацаваўшы адпаведную духоўную культуру. Соф'я гэты свет успрымае ў такіх фарбах, якія для амерыканкі, магчыма, нават невядомыя.

Іншым разам даводзіцца чуць пра амерыканскую духоўную самаізаляванасць. Аналізуючы літаратуру ЗША, узнікае пачуцце, што амерыканцам увогуле ці не патрэбны астатні свет, ці яны яго згодныя трываць, як нейкі дадатак?

Менавіта гэта трэба мець на ўвазе, калі мы разглядаем амерыканскую літаратуру і нават амерыканскую культуру ў цэлым. Зараз, вядома, нешта мяняецца і Амерыка пачынае адчуваць пэўныя абавязкі перад астатнім светам. Але гэта дзяржава ў цэлым. Кожны ж амерыканец як індывідуум перш за ўсё адчувае сябе добра ў сваім асяроддзі. Яго мала ці ўвогуле не цікавіць усё тое, што адбываецца недзе на іншым краі свету.

**— Юрый Віктаравіч, а па лексіцы можна распазнаць амерыканскі характар?**

— Найперш я хачу адзначыць, што нават у мове амерыканскай літаратуры сустракаецца вельмі шмат метафар, пабудаваных на Бібліі. Таксама назвы многіх раманаў ці апавяданняў адпраўляюць нас да Свяшчэннай кнігі хрысціян, напрыклад «Выйдзі з пустыні». Гэта біблейская фраза. «Другая краіна» — назва рамана негрыцянскага пісьменніка Джэймса Болдуіна — гэта тая самая зямля абетаваная, дзе людзі маглі б быць шчаслівымі. Біблейскі метафарычны пласт вельмі моцны. Ён значна мацнейшы, чым у якой-небудзь еўрапейскай літаратуры. У нас няма такіх пурытанскіх традыцый. Свецкая культура заўсёды была вельмі развітая ў Еўропе. А ў ЗША з самага пачатку быў зададзены моцны рэлігійны зарад. Гэта не толькі, як я казаў, уздзейнічае на паводзіны персанажаў, але і абгрунтоўвае нават асаблівасці стылю амерыканскіх пісьменнікаў. Паколькі першая кніжка ў амерыканскай літаратуры — гэта пропаведзь, рэлігійны трактат, дзе быў вельмі важны прамы зварот да чытача альбо слухача, то і цяпер многія амерыканскія аўтары пішуць, нібыта наўпрост размаўляюць са сваім чытачом.

**— Шмат якія амерыканскія пісьменнікі добра валодаюць аратарскім майстэрствам.**

— Так, і яно бывае вельмі важным для таго ці іншага пісьменніка ў амерыканскіх умовах. Таму многія формулы гэтай аратарскай мовы і з'яўляюцца ў тэксце твораў. У іх нават ёсць такі жанр, які ў нашай літаратуры не меў вялікага распаўсюджання, — аўтабіяграфічны. Гэты жанр бярэ пачатак яшчэ з XVIII стагоддзя з вядомага твора Франкліна. У ёй аўтар проста размаўляе са сваім чытачом. Ёсць такая, як мы лічым, англійская прымаўка: «Час — гэта грошы». Але гэта зусім не прымаўка, а адзін з пастулатаў Франкліна. Усё гэта вельмі важна мець на ўвазе для разумення твораў амерыканскіх пісьменнікаў — і глыбіннага сэнсу, і стылістыкі, канешне, лексікі, мовы.

**— А якім чынам англійскае слова ўжываецца і існуе ў амерыканскай літаратуры?**

— Натуральна, аснова амерыканскай літаратуры англійская, пры ўсёй розніцы брытанскага і амерыканскага варыянтаў. Нейкія словы могуць мець і іншыя значэнні, а таксама могуць ужывацца граматычныя формы, якія існавалі яшчэ ў XVII стагоддзі. У брытанскім варыянце яны ўжо не выкарыстоўваюцца. Гэта таксама звязана з гісторыяй амерыканскага варыянта англійскай мовы. Ён ізалявана развіваўся. Таксама пэўную ролю адыгрываюць і запазычанні з іншых моў. У брытанскім варыянце англійскай мовы ішлі адны запазычанні, у амерыканскім іншыя. Тут больш слоў індзейскага, мексіканскага паходжання. Цяпер увогуле амерыканскі варыянт мае перавагу над брытанскім, бо пераважная ж большасць тэлевізійных праграм, фільмаў ствараецца ў ЗША. Часта запрашаюць здымацца ў іх англійскіх акцёраў, але ў амерыканскіх фільмах яны павінны размаўляць так, як размаўляюць амерыканцы. Я меў такія назіранні, што зараз нават англічане не заўсёды і могуць адрозніць чыста брытанскі варыянт ад амерыканскага.

**— Як англійскае слова ўжываецца з тамашнімі дыялектамі, калі аналізаваць амерыканскую літаратуру?**

— Трэба сказаць, што развіццё амерыканскай літаратуры ішло ад рэгіянальнага ўзроўню да агульнанацыянальнага. Гэта асабліва можна ўбачыць у літаратуры XIX стагоддзя. Скажам, Бостанская паэтычная школа характарызуецца тым, што ўвогуле ў Бостане амерыканскі варыянт англійскай мовы найбліжэйшы да брытанскага, паколькі гэта быў цэнтр адукацыі. Там жылі і найбольш вядомыя пісьменнікі і паэты. Шмат вельмі прэстыжных амерыканскіх універсітэтаў, дзе яны выкладалі.

Калі ж мы возьмем літаратуру ціхаакіянскага ўзбярэжжа, літаратуру Сан-Францыска, то тут назіраецца вельмі шмат запазычанняў з іспанскай мовы, паколькі вялікая частка насельніцтва іспанскага паходжання. Калі паглядзець на літаратуру Поўдня Амерыкі, то там прысутнічае вельмі значны элемент негрыцянскай мовы, так званы чорны амерыканскі дыялект. Для яго характэрны глыбокія гукі. Паколькі негры былі ўвогуле непісьменныя, то для іх практычна існавалі толькі тэксты з Бібліі, псалмы. Таму тут больш чым дзе назіраецца моцнае пранікненне біблейскага матыву. Такім чынам, літаратура Поўдня вельмі моцна адрозніваецца па тэматыцы.

**— Дзякую, Юрый Віктаравіч, за цікавыя паведамленні. Поспехаў Вам у працы.**

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

## АЛЕ!

фармаваным нашым грамадствам і сродкамі масавай інфармацыі, а значыць, пераважна расійскамоўным. Але гэтае становішча паступова мяняецца, бо большасць грамадзян нашай краіны — беларусы, у большасці — білінгвісты. Яны без цяжкасцей могуць мяняць моўную арыентацыю. А іхнія дзеці, ідучы ў садкі, чуюць там беларускую мову і лёгка засвойваюць яе пачаткі.

Справа ў тым, што цяпер існуюць цяжкасці са стварэннем беларускамоўнага асяроддзя ў дзіцячых калектывах. Асабліва гэта датычыць гарадоў. Так, большасць людзей прыхільна ставіцца да таго, што выхавацелі з іхнімі дзецьмі гавораць па-беларуску. Але ж гэта нагадвае працэс вывучэння замежнай мовы, і дзіця, якое прыходзіць у групу з сям'і, дзе гавораць выключна па-расійску, адчувае існаванне вакол сябе моўнага бар'ера. Якім можа быць выйсце з гэтага становішча? Я думаю, арганізацыя дзіцячых устаноў паводле моўнага прынцыпу: асобна беларускіх, расійскіх ды і не толькі іх у выпадку, калі недзе створыцца група бацькоў, якія б жадалі, каб іхнія дзеці выхоўваліся, напрыклад, на польскай ці яўрэйскай мове. Спробы стварэння падобных дзіцячых устаноў ужо былі. Так, у Менску нейкі час працаваў садок, які ўзначальвала спадарыня Галіна Прыма. Пераважная большасць яго выхаванцаў паходзіла з беларускамоўных сем'яў, што дазваляла стварыць у ім адпаведную атмасферу. Але прыблізна год таму з нейкіх прычын гэты садок быў закрыты.

Разумееце, я не заклікаю да апартэіду — стану адасобленага існавання беларускамоўных грамадзян нашай краіны. Але ж кожны народ мусіць гаварыць сваёй мовай. І таму нам трэба памятаць, што мы — беларусы і грамадзяне Беларусі. І арыентацыя на захаванне нашых нацыянальных каштоўнасцей, і ў першую чаргу — мовы, павінна быць клопатам дзяржавы. Менавіта дзяржава павінна клапаціцца аб тым, каб не ўціскаліся інтарэсы яе грамадзян — сталых ці маленькіх. І я спадзяюся на тое, што наш Прэзідэнт, наш Урад не дапусцяць вяртання становішча нацыянальнага ўціску, якое існавала дагэтуль. Ну а мы, работнікі адукацыі, самі зацікаўлены ў адраджэнні беларушчыны. Бо нават першае слова назвы нашага універсітэта — Беларускі — накладае на нас пэўныя абавязкі.

А што да сённяшніх праблем існавання людзей у іншым моўным асяроддзі, дык яны, думаю, будуць існаваць. Бо ад СССР — дзяржавы аднаго народа з адзінай мовай — мы ідзём да Беларусі, роднымі мовамі грамадзян якой з'яўляюцца і польская, і літоўская, і ўкраінская, і яўрэйская, і расійская, і, канешне ж, беларуская. Але ж яе слушна могуць назваць роднай восем мільёнаў беларусаў.

**Магчымасць ужывання роднай мовы — адно з неад'емных правоў чалавека. Таму свой каментарый праблемы для нашага выдання зрабіў і Яўген Новікаў, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, старшыня Беларускай лігі правоў чалавека.**

— Гэтую праблему трэба разглядаць з пазіцыі адпаведнасці існуючага ў нашай краіне становішча пактам ААН аб культурных і сацыяльных ды грамадскіх і палітычных правах асобы. Бо падпісаныя нашай краінай міжнародныя пагадненні маюць першаснасць адносна ўнутранага заканадаўства краіны. Дык вось, згодна з названымі мной дакументамі, кожны чалавек мае права карыстацца той мовай, якой яму зручна.

Вынікам падобнага спосабу вырашэння моўных праблем з'яўляецца сутыкненне інтарэсаў розных груп грамадзян і дзяржавы. І дзяржава мусіць даць магчымасць рэалізаваць свае правы ўсім. Яе задача — захаванне балансу інтарэсаў усіх бакоў, не надаючы штучнай перавагі ніводнаму з іх. А ў дадзеным выпадку размова ідзе якраз не пра адраджэнне мовы, не пра навучанне ёй, а пра магчымасць свабоднага карыстання ёю. І гэты канкрэтны прыклад — не што іншае, як парушэнне — свядомае ці не свядомае — правоў грамадзяніна, хай нават трохгадовага ўзросту, права дзіцяці карыстацца той мовай, на якой яно гаворыць у сям'і і якая з'яўляецца дзяржаўнай у краіне.

Ізаляцыя дзіцяці, выкліканая моўным бар'ерам, — у нармальнай краіне — рэч немагчымая. Бо ўрад, калі ён сапраўды клапоціцца аб сваіх грамадзянах, мусіць стварыць цэлую сістэму дашкольных устаноў для дзяцей рознай — падкрэслю — не нацыянальнасці, а моўнай арыентацыі. Гэта — патрабаванне маралі і культуры. Глядзіце, напрыклад, на Вялікую Брытанію. Там існуе сістэма нацыянальных школ для дзяцей з Азіі і Афрыкі, і нікога гэта не здзіўляе. А тое, што ў Беларусі бацькі хочуць, каб іхнія дзеці хадзілі ў цалкам беларускамоўны садок, камусьці можа падацца спробай дыскрымінацыі небеларусаў.

Тут дарэчы будзе ўзгадаць такі тэрмін, як адваротная дыскрымінацыя. Гэта азначае дыскрымінацыю карэннага насельніцтва некарэнным. Класічны прыклад таму — апартэід у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, дзе белая меншасць доўгі час прыгнятала большасць, якую стварылі карэнныя жыхары краіны. Падобны працэс доўгі час адбываўся і ў Беларусі, карэнныя жыхары якой знаходзіліся пад уціскам прыўнесеных звонку культуры і ідэалогіі. І парушэнне раўнавагі правоў грамадзян розных культур захоўваецца нават цяпер у самых розных формах.

Так, адраджаючы беларускую мову, мы не павінны ўціскаць носьбітаў іншых. Але і зваротная дыскрымінацыя, якая часцяком хаваецца за лозунгамі барацьбы з нібыта гвалтоўным накіданнем беларускай мовы — рэч не менш небяспечная. Бо гэта — галоўны аспект моўнай праблемы: дзяржаўнасць адной мовы не павінна ствараць перашкод для ўжывання іншых. Але адначасова мовы нацыянальных меншасцей, ужываныя свабодна, не павінны рабіцца перашкодамі на шляху развіцця мовы большасці — мовы дзяржавы. Гэта — праблема не нацыянальнасці ці палітыкі, а грамадства і яго культуры.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

## ЗГАДКІ

*28 верасня 1829 года ў маёнтку Завідавічы (цяпер — вёска), размешчаным на беразе маляўнічага Лепельскага возера, нарадзіўся Міхаіл Францавіч Кусцінскі — археолаг, гісторык і краязнавец. Гэта быў адзін з нямногіх памешчыкаў Віцебскай губерні, які, атрымаўшы універсітэцкую адукацыю, паспяхова займаўся навуковай работай — археалагічнымі даследаваннямі і калекцыяніраваннем, плённа спалучаючы яе з гаспадарчай дзейнасцю.*

# ЛЕПЕЛЬСКІ АРХЕОЛАГ

**(Да 165-годдзя з дня нараджэння Міхаіла Кусцінскага)**

Пасля пачатковай адукацыі на Лепельшчыне ён скончыў Віленскі дваранскі інстытут і юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Затым сваім галоўным заняткам выбраў няпростую работу археолага. Навуковую дзейнасць Міхаіл Францавіч пачаў у 1852 годзе археалагічнымі раскопкамі на водападзеле паміж вытокамі рэк Волгі, Дняпра і Заходняй Дзвіны, на прарадзіме старажытных крывічоў. Наш зямляк паспяхова даследаваў некалькі дзесяткаў курганоў, два гарадзішчы, Гнёздаўскі курганны могільнік пад Смаленскам. Ён старанна вёў дзённікі раскопак, якія пазней перадаў у Маскоўскае імператарскае археалагічнае таварыства.

Але думкі аб родным краі не пакідалі маладога вучонага, які выдатна разумеў, што Лепельшчына з'яўляецца ідэальным месцам для археалагічнага вывучэння. Размешчаная на старажытным шляху «з вараг у грэкі», яна даўней была даволі шчыльна заселена. Пацвярджэнне гэтаму — многія сотні курганоў, могільнікаў, дзесяткі гарадзішчаў, селішчаў.

У 1855 г. М.Кусцінскі канчаткова пасяліўся ў маёнтку Завідавічы. Тут ён ажыццявіў раскопкі курганных насыпаў у наваколлі. У 1861 і 1863 гг. ля мястэчка Кублічы археолаг знайшоў жалезныя сякеры, дзіды, гліняную лямпу з адтулінай для кнота і інш. Сабраная вучоным багатая калекцыя каменных, бронзавых, жалезных, гліняных і інш. прадметаў была перададзена ў музеі Віцебска, Расіі, Польшчы. Матэрыялы раскопак М.Кусцінскі ўвекавечваў фатаграфаваннем, якое затым перарасло ў сістэматычнае складанне першай на Беларусі фотатэкі помнікаў старажытнасці Віцебскай і суседняй губерняў. Найбольш плённым вынікам шматгадовай працы лепяльчаніна было стварэнне археалагічнай карты Лепельскага павета.

Міхаілам Францавічам таксама вывучаліся Барысавы (Дзвінскія) камяні — выдатныя помнікі эпіграфіі XII ст., збіраліся этнаграфічныя звесткі аб жыхарах роднага краю.

Самаадданая і настойлівая праца нашага земляка атрымала грамадскае прызнанне. За вялікі ўклад у навуковыя даследаванні краю знакаміты лепяльчанін быў спачатку абраны членам-карэспандэнтам, а з 1874 года — сапраўдным членам Маскоўскага археалагічнага таварыства.

Маючы багаты запас фактычнага матэрыялу па геаграфіі, этнаграфіі, гісторыі, археалогіі, вучоны з Завідавічаў у 1903 г. напісаў нарыс «Лепельскі павет Віцебскай губерні», за які атрымаў прэмію папулярнага часопіса «Вокруг света».

З'яўляючыся чалавекам забяспечаным, наш зямляк тым не менш прысвяціў сваё жыццё нялёгкаму служэнню навуцы. Кранаюць і гуманныя намаганні вучонага дапамагаць хворым і бедным, што прывяло яго ў рады папячыцеляў Лепельскай павятовай бальніцы. А 2 ліпеня 1875 г. калежскі сакратар М.Ф.Кусцінскі быў выбраны ганаровым міравым суддзёй Лепельскай акругі.

Памёр знакаміты лепяльчанін у 1905 годзе. Яго навуковая і грамадская дзейнасць выклікае вялікую павагу і заслугоўвае, каб гэта славутае імя было ўвекавечана ў назвах установ, вуліц, населеных пунктаў краю.

**Ілья ЯНУШ,**
**навуковы супрацоўнік Лепельскага краязнаўчага музея.**

## ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

**М.П.КАСЦЮК**

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў ТРЫВОЖНЫ І СУПЯРЭЧЛІВЫ ЧАС (канец 20-х — пачатак 40-х гадоў)

*(Працяг. Пачатак у №№ 39, 40.)*

Разам з тым партыйна-дзяржаўныя ўлады вялікую ўвагу надавалі ідэалагічнай апрацоўцы народа. Яна вялася праз адпаведныя культасветустановы. На працягу 30-х гадоў колькасць хат-чытальняў у рэспубліцы павялічылася да 1387, а клубаў — да 266. Гэтай жа мэце служылі і бібліятэкі. У Беларускай ССР у 1940 г. іх налічвалася 1760. Яны мелі фонд каля 4 млн. кніг. Фактычна на аднаго жыхара рэспублікі ва ўзросце звыш 10 гадоў прыпадала ў сярэднім адна кніга. Пашыралася колькасць выдаваемых газет. У 1938 г. у БССР іх налічвалася 199 — рэспубліканскіх, абласных, раённых, шматтыражных. У іх ліку 149 выданняў было на беларускай мове. Агульны тыраж газет складаў каля 1 млн. экземпляраў. У жыццё працоўных уваходзіла радыё, кіно. Усе сродкі масавай інфармацыі і культасветустановы знаходзіліся пад жорсткім ідэалагічным кантролем. Работа ў іх вялася ў накірунку засваення працоўнымі сталінскага ўяўлення аб сацыялізме. З 1938 г. гэта рабілася ў строгай адпаведнасці з «Кароткім курсам гісторыі УКП(б)».

У працэсе культурнага будаўніцтва фарміравалася інтэлігенцыя Беларусі. Важную ролю ў гэтых адносінах выконвалі вышэйшыя навучальныя ўстановы. У 1932 г. у рэспубліцы іх налічвалася 31 з 10,6 тыс. студэнтаў. У 1933 г. быў створаны Беларускі політэхнічны інстытут. У выніку аб'яднання некалькіх сельскагаспадарчых устаноў быў адноўлены Горацкі сельскагаспадарчы інстытут. У гэты ж час адкрыўся інстытут народнай гаспадаркі ў Менску.

Пашыралася сетка сярэдніх спецыяльных устаноў. У 1932 г. у БССР іх было 104, а колькасць навучэнцаў складала амаль 20 тыс. З мэтай забеспячэння класавага прынцыпу ў камплектаванні кантынгенту студэнтаў пашыралася колькасць рабочых факультэтаў. У 1932 г. іх налічвалася 50, і ахоплівалі яны амаль 11 тыс. чалавек.

Вынікам усёй гэтай працы было тое, што колькасць спецыялістаў ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры рэспублікі дасягнула ў канцы другой пяцігодкі амаль 50 тыс. Да канца 30-х гадоў у асноўным сфарміравалася беларуская савецкая інтэлігенцыя. Па свайму паходжанню ў пераважнай большасці яна была рабоча-сялянскай.

У складаных умовах развівалася навука савецкай Беларусі. Вядучая роля ў навуковых даследаваннях належала Беларускай Акадэміі навук. У пачатку 30-х гадоў удасканальвалася яе арганізацыйная структура. У 1932 г. тут налічвалася 14 навукова-даследчых інстытутаў. Усяго ў рэспубліцы было 40 навукова-даследчых устаноў, дзе працавала каля 1,5 тыс. навуковых работнікаў.

У выніку сталінскіх рэпрэсій навуковым кадрам быў нанесены непапраўны урон. Толькі на працягу 1937—1938 гадоў у Акадэміі навук было арыштавана 57 чалавек, у тым ліку акадэмікі Я.М.Афанасьеў, Т.Ф.Домбаль, І.І.Замоцін, С.Ю.Матулайціс, В.А.Сербента і многія іншыя. Фактычна была згорнута падрыхтоўка кадраў. У выніку цэлыя навуковыя напрамкі закрываліся.

З усталяваннем адміністрацыйна-каманднай сістэмы, культу асобы ўзрасла практыка грубага ўмяшання ў развіццё літаратуры і мастацтва. З мэтай яшчэ большага падпарадкавання партыйна-дзяржаўным уладам пісьменніцкіх арганізацый вырашана было аб'яднаць усіх пісьменнікаў у адзіны саюз. У 1934 г. у Менску адбыўся першы з'езд пісьменнікаў Беларусі, які аформіў утварэнне адзінай пісьменніцкай арганізацыі ў рэспубліцы. Метад сацыялістычнага рэалізму стаў выкарыстоўвацца для канцэнтрацыі ўвагі на пераўтварэннях у розных галінах жыцця і адпаведнага іх адлюстравання.

Тым не менш і ў гэтых умовах з'яўляліся мастацкія творы, якія ўвайшлі ў класіку беларускай літаратуры. Сярод іх паэма «Тарасова доля» Я.Купалы, аповесць «Дрыгва» Я.Коласа, раман «Трэцяе пакаленне» К.Чорнага, камедыя «Хто смяецца апошнім» К.Крапівы і іншыя. Аднак кадры літаратараў панеслі ў выніку рэпрэсій вялікія страты. Былі рэпрэсіраваны пісьменнікі А.Александровіч, П.Галавач, М.Гарэцкі, Ц.Гартны, А.Дудараў, М.Зарэцкі, Я.Пушча, М.Чарот і многія іншыя.

Цяжкія ўмовы накладвалі таксама адбітак на развіццё сцэнічнага мастацтва, музыкі, кіно, скульптуры, архітэктуры, выяўленчага мастацтва, вуснай народнай творчасці. Значыць, у 30-я гады літаратура і мастацтва савецкай Беларусі прайшлі складаны супярэчлівы, драматычны шлях, адзначаны як дасягненнямі, так і балючымі стратамі.

Не толькі развіццё культуры і навукі, але і грамадска-палітычнае жыццё прымала ў 30-х гадах усё больш выразна акрэсленыя адміністрацыйна-камандныя рысы. Пад уздзеяннем культу асобы і загадных метадаў кіравання паступова выпрацоўвалася адзінства думак. Гэтую з'яву афіцыйная прапаганда падавала як буйное дасягненне сацыялістычнага будаўніцтва, а на самай справе было глумленнем над дэмакратыяй, адыходам ад яе, адным з праяў сталінскага дыктатарскага рэжыму.

Наогул 30-я гады — вельмі супярэчлівы час у гісторыі савецкай Беларусі, як і ўсёй дзяржавы. У ім спалучаліся ў неймаверным перапляценні працоўны энтузіязм народа і яго страх перад беззаконнем, вера ў Сталіна і няведанне таго, што іменна ён з'яўляўся асноўным ініцыятарам, арганізатарам і натхняльнікам масавых рэпрэсій.

У такіх грамадска-палітычных умовах народ актыўна працаваў, паказваючы высокія прыклады энтузіязму і самаахвярнасці. Гэтыя два працэсы — энтузіязм народа і культ асобы — ішлі паралельна. Першы — шырока і адкрыта. Другі — тайна, схаваны за строга прасеянай афіцыйнай інфармацыяй і прапагандай. У грамадстве былі створаны абставіны, калі груба ігнараваліся правы чалавека. Усюды вышуквалі «ворагаў народа». Заахвочваліся даносы і паклёпы. Нават прадугледжвалася пакаранне за «неданасіцельства». Паўсюдна ўсталявалася ўсеагульная падазронасць. Каштоўнасць чалавечага жыцця зменшылася да самай нізкай адзнакі. Ніхто не быў упэўнены ў заўтрашнім дні.

На жыццё Беларускай ССР, як і ўсёй дзяржавы, пэўны адбітак наклала савецка-фінская вайна. Яна адбывалася зімою 1939—1940 гг. Насуперак планам вярхоўнага кіраўніцтва лёгкай перамогі не атрымалася. Яна была дасягнута значнымі людскімі і матэрыяльнымі стратамі, хаця доўгі час гэта замоўчвалася.

У сувязі з пагрозай вайны з Германіяй у сярэдзіне 1940 г. быў уведзены 8-гадзінны рабочы дзень і 7-дзённы рабочы тыдзень. Парушэнні працоўнай дысцыпліны караліся судовымі органамі.

Значыць, на працягу 30-х гадоў не толькі ў сацыяльна-эканамічным, але і ў грамадска-палітычным жыцці былі зроблены вялікія дэфармацыі. Але ўсё гэта прыкрывалася бачнасцю сацыялістычнай дэмакратыі.

Аднак самым цяжкім злачынствам дыктатарскага сталінскага рэжыму былі масавыя рэпрэсіі. Яны закранулі не толькі працоўныя калектывы рабочых, сялян, інтэлігентаў, але і партыйна-дзяржаўны апарат, партыйныя арганізацыі. Вялікія страты панеслі навуковыя кадры. Было рэпрэсіравана 26 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў. У 1937—1938 гг. трагічна загінулі прэзідэнты Беларускай Акадэміі навук П.В.Горын і І.З.Сурта, акадэмік І.А.Пятровіч, Б.А.Тарашкевіч і іншыя. Рэпрэсіям падвергліся больш за 100 беларускіх пісьменнікаў. Значныя страты панесла вёска. Ужо ў снежні 1932 г. былі арыштаваны 24 селяніны шэрага вёсак Старобінскага раёна, 9 з іх — братоў П.О. і Я.О.Будзіловічаў, І.М. і У.М.Пятровічаў, А.І.Курбыку і іншых — прыгаварылі да расстрэлу. Не абышлі рэпрэсіі і рабочы клас. Курапаты, што пад Менскам, іншыя месцы расстрэлаў, уся сістэма лагераў і спецпасяленняў — наш боль і прысуд дыктатарскаму сталінскаму рэжыму.

**Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.**

*(Працяг будзе.)*

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАСІЎНЫ** (які не праяўляе цікавасці, жывога ўдзелу да наваколля, пазбаўлены актыўнага пачатку) *Сам жа Лабановіч на гэты раз, як бяспраўны настаўнік, сядзеў далей ад стала экзаменатараў у якасці староннягa і пасіўнага наглядальніка* (Колас). *Праўда, рэагаванне лірычнага героя на жыццёвыя праявы яшчэ надзвычай пасіўнае, неглыбокае* (Каваленка), **ІНÉРТНЫ** *«А ўсё ж нейкія інертныя людзі тут! – уздыхнуў Васіль. – Маўчаць, нібы іх і не датычыць нічога»* (Шашкоў). *Фальклорныя матэрыялы даказваюць, што народ не быў інертны, не быў пасіўны* (Пракошына), **БЯЗДЗÉЙНЫ** (не здольны або які не жадае дзейнічаць, прымаць удзел у якой-н. дзейнасці; а таксама пра паводзіны, учынкі, адносіны да чаго-н. і пад.) *Убачанае было настолькі балючым і страшным, што я хадзіла цямней начы і адно шкадавала Сцяпана. Аднак такой бяздзейнай была я толькі напачатку* (Лось). *Дочкі нават спрабавалі прымірыць бацьку з маці. Але гэта азначала, што яму [Арлоўскаму] трэба было кінуць любімую работу, родныя Мышкавічы, дзе адбываліся вялікія пераўтварэнні, і зноў пачаць бяздзейнае жыццё* (Паслядовіч).

**ПАСЛÁБІЦЬ** (крыху аслабіць, адпусціць што-н. туга нацягнутае, закручанае) *Варанецкі лёгка саскочыў з сядла, паслабіў каню папругі і пусціў яго папасвіцца* (Дуброўскі). *Сева расшпіліў кашулю, паслабіў гальштук і ссунуў яго набок* (Карпаў), **ПАПУСЦІЦЬ** *Пад'язджаючы пад мужчын, папусціў лейцы, цмокнуў і пасакатаў па вуліцы, падымаючы пылок* (Крапіва). *Вырваўшыся з заціснутай камлюкаватымі дрэвамі дарогі на волю, лёгка ўздыхнуў на ўсе грудзі, папусціў павады* (Лецка). – *Незакончанае трыванне:* **Паслабляць, папускаць.**

**ПАСЛАНÉЦ** (той, хто пасланы кім-н. да каго-н. з якім-н. даручэннем, з якой-н. весткай) *У штаб часта заходзілі пасланцы ад партызанскіх брыгад і атрадаў* (Шчарбатаў). *Такую пісульку Язэп Крушынскі атрымаў ад агранома праз спецыяльнага пасланца* (Бядуля), **ПАСЛÁННІК** *кніжнае ўстарэлае* *Пайшоў ён [Алёша] пасланнікам іхнім, Палез да вяршыні па схілу, І згаслі пажары, Грымоты заціхлі, Адчуўшы, што ўзняўся асілак* (Калачынскі), **ПАСÓЛ** *ад каго або чый* *Прыйшлі пaслы – Ад плугоў, ад пілы. Павялі паслоў Да прыбраных сталоў* (Лось). *Пашлі асла, за ім – пасла* (прыказка). – *Параўнайце:* **Кур'ер, Пасыльны.**

**ПАСЛÁЦЬ** (прымусіць каго-н. накіравацца куды-н. з якой-н. мэтай) *Вось і сёння паслала маці Натальку прынесці абед* (Колас). *Я паслаў на балота разведчыкаў, а сам павёў групу на знаёмы хутар* (Карпюк), **АДПРÁВІЦЬ** *Пасля снедання ён [Мітрафан] адправіў Грышу падграбаць нацярушаную на двары за зіму салому, а сам узяўся наводзіць парадак у павеці* (Пальчэўскі). *Біскуп адправіў ганца ва ўладанні Радзівілаў* («Полымя»), **НАКІРАВÁЦЬ** (паслаць да месца працы, службы, вучобы і пад.) *[Павел] пайшоў у райваенкамат і папрасіў, каб яго накіравалі на фронт* (Шахавец), **КАМАНДЗІРАВÁЦЬ** (паслаць з якім-н. даручэннем) *Раніцай дырэктар атрымаў загад – спешна камандзіраваць студэнтаў на граніцу для рамонту дарог і пабудовы авіяцыйных пляцовак* (Якімовіч). *У маі 1941 года нас, курсантаў ваеннага інжынерна-тэхнічнага вучылішча, камандзіравалі на самы вялікі востраў Манзундскага архіпелага* (Жычка), **АДКАМАНДЗІРАВÁЦЬ** *[Жук:] – Прашу адкамандзіраваць мяне ў знішчальны полк* (Алешка). *Мяне камандзір брыгады М.М.Розаў спецыяльна адкамандзіраваў у вёску Жывунь для кіраўніцтва мясцовым насельніцтвам, для своечасовай арганізацыі яго бяспекі* (Залескі), **ПАГНÁЦЬ** разм. (паслаць супраць волі, жадання або з якім-н. тэрміновым даручэннем) *[Люба Лук'янская:] – Толькі як бацьку пагналі на вайну, тады мне прыйшлося ўсё дома рабіць, бо маці пайшла на фабрыку, туды, дзе бацька працаваў* (Чорны). *А сёння бабку пагналі немцы ў абоз – вазіць салому* (Лынькоў), **ПАПÉРЦІ** *разм. грубае* *– Дзівак чалавек, – усміхнуўся пасыльны.. – Садзіся во ў брычку, паедзем, а то заўтра пехатой папруць* (Асіпенка). *Жонка адразу папёрла яго [Пётру] па ваду, як толькі пераступіў парог* (Пташнікаў). – *Незак.:* **Пасылаць, адпраўляць, накіроўваць, камандзіраваць, адкамандзіроўваць, гнаць, перці.**

**ПАСЛУХМЯ́НЫ** (які лёгка слухаецца каго-н., падпарадкоўваецца каму-н., чыёй-н. волі) *Не, яны [божыя служкі] толькі хацелі, каб палоненыя латышы разумелі слова крыжа, каб яны праз яго сталі паслухмянымі рабамі* (Караткевіч). *А князь спярша баяр і ваявод, Пасля ганцоў прымае – сочыць пільна, Каб паслухмяным быў яму народ І вораг шанаваў Літву і Вільню* (Бітэль), **ПАСЛУ́ШНЫ** *[Юзік] быў хлопец ва ўсім паслушны Цімоху* (Колас). *Ідў, мая мара, Паслушны табе – Я ў буднях жыцця сапраўды прытупеў* (Чарнушэвіч), **СЛУХМЯ́НЫ** *Ёсць у мужчын на самым гарляку Грубейшы валасок адзін, Як спіць, – згалі яго, дык будзе да веку Слухмяны для цябе, як сын* (Багушэвіч). *А гэтыя... Як вылушчылі з іх Датла усё, чым ганарацца людзі. З іх высцебалі думкі, нібы пыл З палавікоў, бічом бандыцкіх фільмаў. І вось гатоў слухмяны і тупы Наёмнік уол-стрыцкіх чорных фільмаў* (Панчанка), **ПАКÓРНЫ** *узмацняльнае* *За кусок той хлеба чорны Ты аддай Сілу, думкі, – будзь пакорны І чакай!..* (Купала). *Проста не верылася, што гэты калючы чалавек мог быць услужлівы і пакорны* (Бажко), **ПАКÓРЛІВЫ** *узмацн. Людзі ж пажылыя, жанатыя, цікавіліся болей гаспадаркаю і кавалкам хлеба, чым школамі і навукамі; гэта былі ўжо людзі пакорлівыя, якія лічылі сваім абавязкам лішні раз пакланіцца начальству* (Колас). *Заўсёды ціхая і пакорлівая, маці гаварыла на гэты раз гучна і рашуча* (Ваданосаў), **ШАЎКÓВЫ** *разм., іранічнае, узмацн.* (які стаў паслухмяны ў выніку ўздзеяння) – *От бачыш [Генадзь], і начальнік дэпо цяпер шаўковы зрабіўся, – кажа Мікола* (Васілёнак). *А я з вас выб'ю дух! Вы ў мяне шаўковыя будзеце!* (Нягай), **РУЧНЫ́** *разм., жартаўліваe.*

**ПАСМÉЙВАЦЦА** (час ад часу, злёгку смяяцца) *Збяруцца мужчыны – хто розныя смешныя штукі расказвае, на смех другога падымае, а Міходзя сядзіць сабе збоку, як чужы, слухае ды пасмейваецца* (Ракітны), **ПАСМІХÁЦЦА** *Дзед Талаш задаволена пасміхаецца: яго ваякі ведаюць службу* (Колас). *[Вера] пачала па-руску, паспрабавала па-нямецку, а італьянец стаяў і пасміхаўся сваім вялікім ротам з роўнымі белымі зубамі* (Мікуліч), **ПАСМІХВАЦЦА** *[Віктар] абапёрся плячамі аб плоцік агарода, лузаў гарбузікі і пасміхваўся* (Лобан). *Пасміхваецца бацька, а Уля амаль не плача: «Мама, як вы можаце так гаварыць, не ўведаўшы чалавека?»* (Паўлаў).

ВУЧЫМСЯ

УДАКЛАДНІМ

*Леанід БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар*

# ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ

## е) Складаназалежныя сказы з даданымі часткамі месца

1. Даданая частка месца звязваецца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа злучальнымі словамі **дзе, куды, адкуль, дакуль** і аддзяляецца ад яе пры дапамозе коскі: *Неба яшчэ чырванела там, дзе зайшло сонца* (З.Бядуля). *Шалашы стаялі між стромкіх дрэў глухой дзікай пушчы, куды рэдка заглядала людское вока* (Якуб Колас). *Некалькі коннікаў галопам прамчалі туды, адкуль нядаўна чуліся стрэлы* (М.Лынькоў). *Дзе журыліся пад шэранню прысады, там чары восені я ў радасці спавіў* (П.Трус).

**Заўвага.** Непадзельныя выразы, якія не з'яўляюцца даданай часткай месца, коскай не аддзяляюцца: *Хлапчукі рассыпаліся куды каторы* (М.Лынькоў). *Ламачча валялася дзе папала* (Якуб Колас). *Яны імчаліся куды глядзяць вочы* (І.Мележ).

2. У тых выпадках, калі даданая частка месца знаходзіцца ў сярэдзіне галоўнай часткі складаназалежнага сказа, яна выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *На захадзе, куды бясконцым патокам рухаліся вайсковыя часці, чулася артылерыйская кананада* (І.Мележ). *Туды, адкуль толькі што вярнуліся разведчыкі, Лагуновіч накіраваў групу танкаў* (І.Мележ). *Там, дзе еднасці і згоды няма ў людзей, праца іхняя заўсёды марна прападзе* (Янка Купала).

Пры большай паўзе і кантрастным змесце прэдыкатыўных частак, апрача коскі, пасля даданай часткі можа ставіцца працяжнік: *Там, дзе кветак яснавокіх неставала для сцяжын, – забялела ўсё навокал ад расквечаных калін* (П.Прыходзька). *Каля сіняга мора, у далёкай тайзе, дзе Амур свае воды ў далёкае мора нясе, – асяліўся нанайскі народ-паляўнік* (У.Дубоўка).

3. Калі даданая частка месца знаходзіцца перад галоўнай часткай складаназалежнага сказа (суправаджаецца ўзмоцненай інтанацыяй), то паміж гэтымі часткамі ставіцца працяжнік: *Дзе былі непраходныя балоты – каласіцца высокая пшаніца* (У.Краўчанка). *Дзе бляск зардзее – там знікае спрадвечная дрымотная імгла* (Р.Няхай). *Дзе дуб малады вершаліну ўзнёс – жыве селянін Асташэня* (П.Глебка). *Дзе сам я сеяў – пазнаю палетак той ажно здалёк* (А.Астрэйка).

Пры асабліва ўзмоцненай інтанацыі і лагічным расчляненні складаназалежнага сказа на дзве часткі з працяглай паўзай і аслабленай сувяззю паміж імі можа ставіцца коска з працяжнікам: *Дзе Вуса цалуецца з хвалямі Лошы, – Нёман вячысты выходзіць у свет* (А.Александровіч). *Дзе быў глухмень балотаў сініх, – стаіць калгаснае сяло* (А.Бялевіч). *Арлы дзе біліся ў змаганні над кручай роспачы-жыцця, – сягоння там у баравінні над краем зоры шалясцяць* (П.Трус).

Здзіслаў СІЦЬКО

ЧЫТАЕМ КАЗКІ

# ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

*Казкі пра жывёл многія даследчыкі лічаць перламі беларускага казачнага эпасу.*
**К.П.КАБАШНІКАЎ.**

*У нашых казках, легендах, загадках, прыказках і прымаўках згадваецца шмат розных звяроў, прыручаных чалавекам і дзікіх. Заняў сваё адметнае месца ў нашым фальклоры і воўк, адзін з самых даўніх і сталых спадарожнікаў чалавека. І гэтае месца адпавядае яго ролі ў Сусвеце нашых прашчураў, у Сусвеце рэальным і ў Сусвеце, створаным паэтычным уяўленнем пра навакольную прыроду*

## «ДЗЕД ДЫ БАБА І ВОЎК»

«Жылі сабе дзед ды баба. І была ў іх унучка, сучка, сямёра авец і бык-палавец. Прачуў аб гэтым воўк. Прыйшоў ён к ім пад акно і запеў сваю песню:

— Уву — уву — уву! Падыду пад гару. На той гары — саламяная хатка, у той хатцы дзед ды бабка, унучка, сучка, сямёра авец і бык-палавец!

Баба і кажа:

— Дзедка! Хораша пяе! Нум, мы авечачку яму аддадзім!

Аддалі ваўку авечку. Ён за гару, за гару дый з'еў авечку. На другі дзень падыходзіць зноў пад акно...»

Пааддавалі дзед з бабай усю гавяду. А воўк хадзіў да таго часу, пакуль дзед не аддаў яшчэ ўнучку і бабку.

Сюжэт гэтага народнага твора ўяўляецца не менш дзіўным за сюжэт казкі «Каза Дарота». Якім неразумным здаецца нам патаканне дзеда і бабы прыхамаці нейкага валацугі, які нат не просіць, не патрабуе даніны. Вось гэта і прымушае нас задумацца, а хто ж яны такія — тыя, хто так шчодра дораць, і той, каму аддаюць.

Пра Дзеда ўжо згадвалася ў папярэдніх частках нарыса. Ён, верагодна, бог-продак. Але за каго мелі ваўка? Тут варта згадаць другую казку.

## «ДУРНЫ ВОЎК»

«Жыў сабе няшчасны воўк. Не мог ён сабе нічога даставаць. От прыходзіць воўк да святога Юр'я і гаворыць:

— Госпадзі! Я хачу есці!

Юр'я і кажа:

— Ідзі да рэчкі: там багата ходзіць гусей, дык і з'еш іх».

Але ваўку не давялося паспытаць ні гусіцяны, ні свініны, ні бараніны, ні каніны.

Урэшце Юр'я яму сказаў:

«— Ну, вунь там з аднаго сяла ў другое ідзе кравец, дык ідзі яго з'еш».

Але і чалавек быў хітрэйшы ад ваўка. Ён нат зрабіў так, каб ваўкі разарвалі свайго дурнога суродзіча.

У гэтых дзвюх казках выяўлены два асноўныя погляды нашых прашчураў на ваўка. Чаму ў адной казцы яму аддаюць усё, а ў другой воўк не атрымоўвае нічога і сам гіне? Каб зразумець гэта, варта згадаць пра біялагічную асаблівасць гэтага драпежніка

## ПРА ВОЎКА ПАМОЎКА...

Пра воўка памоўка, а ён тут. Гэтая прыказка, як здаецца, гаворыць пра нейкае амаль містычнае ўяўленне пра асаблівасць нашага даўняга спадарожніка. Сапраўды, ці не з самых першых дзён гісторыі чалавецтва чалавек і воўк жылі побач і палявалі на адных і тых жа жывёл. Але воўк быў хітрэйшы, больш бачыў і здалёк чуў, а таму часцей заставаўся нябачным для чалавека. Ды ўсё ж мог з'явіцца раптоўна. (Не трэба паблажліва ўсміхацца ці кпіць з прашчураў. Маўляў, прыдумалі пра ваўка невядома што. Пішуць жа сур'ёзныя вучоныя, што воўк «падкінуў» чалавеку свайго суродзіча — сабаку і час ад часу папаўняе свой генафонд ад сабачага племя. Даказана, што інтэлект ваўка перавышае сабачы і раўняецца дэльфінаваму.)

І, верагодна, у першай казцы адлюстраваны свет нашых прашчураў-пастухоў, якія вымушаны былі дзяліцца прыбыткам з драпежнікамі. Некаторых з іх яны мелі за татэма, гэта значыць прызнавалі агульнае паходжанне і «надпрыродную роднасць» людзей і ваўкоў. Верагодна, воўк быў вестуном або ўвасабленнем нейкага вярхоўнага паганскага бога. Прыкладам, першапродкам лічыўся воўк у манголаў, у некаторых цюркскіх плямёнаў, у амерыканскіх індзейцаў. Згадак пра такое міфічнае паходжанне нашых прашчураў няма, але ўпэўнена можна гаварыць пра ўшаноўванне ваўка.

І калі нашыя прашчуры, паляўнічыя і пастухі, пачалі пераходзіць да земляробства, калі яны пачалі выпальваць ляды, араць і ўрабляць зямлю, адным словам, — будаваць зямлю, як просіць-загадвае брату Міхал, герой паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», яны не выракліся ваўка. У гэты час воўк становіцца абаронцам маладой збажыны ад дзікіх жывёл, якія харчаваліся травою. Тады ваўка «далучылі» да почату Ярылы, бога-сонца. З прыняццем хрысціянства нашы продкі не выракліся і сваіх паганскіх багоў. Некаторыя рысы і «абавязкі» ранейшых боствaў пераняў святы Юр'я.

Як пісаў Я.Карскі, беларускія сяляне ўшаноўвалі Юр'я як апекуна ваўкоў. Яны 23 красавіка, у дзень свята ў гонар Юр'я, выносілі ў поле кавалкі хлеба і пакідалі іх там, кажучы: «Святы Юр'я, пасі нашых авец». Так, ахоўваючы скаціну ад ваўкоў, гэты святы ва ўяўленнях нашых продкаў стаў «пастухом ваўкоў». Дарэчы, у шмат якіх народаў ёсць такія асобы, пераважна ў паганскім пантэоне, што маюць на паслугах ваўкоў і пасылаюць іх на дапамогу або як кару.

Аднак у казцы «Дурны воўк», верагодна, паказаны своеасаблівы абрад збору ахвяравання. Юр'я тут уяўляецца богам, які ўсё ведае, усё бачыць, дзе хто пасецца і дзе хто ходзіць. Але хрысціянскія погляды апавядальніка (ці апавядальнікаў) спрычыніліся да таго, што воўк, ранейшы «царык» (так называлі яго нашы прашчуры) стаўся дурнем.

*(Працяг будзе.)*

# КАЛАСАВІНЫ-94

Наш славуты пясняр Якуб Колас нарадзіўся восенню. І сёлета ў лістападзе, як звычайна, у Менску і на Стаўбцоўшчыне, дзе прайшло дзяцінства паэта, адбудзецца свята, якое так добра названа — Каласавіны. Урачыстасці пачнуцца 3 лістапада рэспубліканскай навуковай канферэнцыяй, якую ладзіць літаратурны музей Якуба Коласа, што ў Менску.

Такія зборы навукоўцаў задумалі і першы раз склікалі былы дырэктар музея Георгій Ткацэвіч і паэт Генадзь Тумас. Іх мара стварыць новую галіну літаратуразнаўства — коласазнаўства — ажыццявілася. Штогод, адначасова з ростам цікавасці да твораў Якуба Коласа пашыраецца і кола навукоўцаў, што даследуюць літаратурныя, педагагічныя, філасофскія і нават касмалагічныя аспекты ягонай творчасці. І сёлета, ужо дзевяты раз, збяруцца даследчыкі з інстытутаў Акадэміі навук Беларусі, выкладчыкі педагагічных ВНУ з Бярэсця, Віцебска, Мазыра, настаўнікі. Яны падзеляцца думкамі і вынікамі сваіх даследаванняў, абмяркуюць новае ў коласазнаўстве.

Рэдакцыйная калегія канферэнцыі ўжо атрымала 29 дакладаў і падрыхтавала іх да публікацыі ў спецыяльным зборніку, які будзе надрукаваны да пачатку канферэнцыі.

А 4 лістапада свята «перабярэцца» на Стаўбцоўшчыну. Там апошнім часам шмат зроблена дзеля ўшанавання славутага земляка і мемарыялізацыі мясцін, дзе жыў і працаваў Якуб Колас. Прыкладам, летась ва ўрочышчы Прыстанька, дзе праходзіў з'езд настаўнікаў, за ўдзел у якім паэт быў асуджаны, быў пастаўлены мемарыяльны знак. А сёлета адпаведна будзе пазначана ўрочышча Цёмныя Ляды, дзе ў 1905 і 1906 гадах у леснічоўцы брата Уладзіслава жыў Якуб Колас. Там ён вучыў сялянскіх дзяцей і напісаў для іх «Другое чытанне для дзетак беларусаў». Гэтыя два гады былі надзвычай плённымі і для яго паэтычнай творчасці.

А яшчэ ў гэты дзень у мемарыяльнай сядзібе Альбуць адкрыецца выстава «Пчалярства і рыбалоўства Стаўбцоўшчыны».

**З.С.**




## ДАРОБАК МАЛАДЫХ

# МЫ КАЖАМ ІНАКШ

Слова! Чароўнае святло чалавечай думкі... Яго стараліся знішчыць, задушыць, перакруціць на чужы капыл. Але тварыўся цуд... І як абраз Божай Маці, што мусіў быў згарэць ды раптам аб'яўляўся недзе ў пушчы, у лясных нетрах і ззяў святлом, так і слова наша, дабытае з нетраў людской памяці, свеціць нам ды вабіць і грэе душу.

А тут такая неспадзяванка — амаль 900 слоў, адметных, пераважна невядомых нам, хто звыкся з калькамі. І знайшла гэты скарб Ірына Шкраба ў творах нашых паэтаў і пісьменнікаў ды склала кніжку «Самабытнае слова». Тут трэба падзякаваць і «Беларускай энцыклапедыі» імя Петруся Броўкі, што выдала яе (на жаль, накладам усяго толькі 9000 паасобнікаў).

У гэтай кніжкі ёсць падзагаловак: «Слоўнік беларускай безэквівалентнай лексікі (у рускамоўным дачыненні)». Гэта значыць, што Ірына Шкраба падала тут словы, для якіх няма аднаслоўнага адпаведніка ў расійскай мове, і яны звычайна перадаюцца некалькімі, апісальна. І тут адразу згадваецца стыль нашых газет, часопісаў, не кажучы ўжо пра радыё ды тэлебачанне, дзе «слова не верабей» выпускаецца ў свет бязлітасна абскубаным. Колькі разоў чуем: ваконная замазка, страціў веру, улетку будучага года, у першую чаргу, памерацца сіламі, лятучая мыш, цёплыя краі, хлебныя культуры. А ёсць жа ў нашай мове словы *кіт, зняверыўся, налецце, найперш, дужацца, кажан, вырай, збажына* — усіх слоў і не пералічыш. Некаторыя ўжо ўжываюцца ў гутарковай мове і ў друку: *навуковец*, *лецішча*, *лёх*, *кухаль*, *фэст*.

Шмат якія словы, сабраныя Ірынай Шкрабай, вядомыя аматарам беларушчыны. Але аўтар падае і такія словы, што нарадзіліся і бытуюць толькі ў пэўнай мясцовасці. Ды яны маюць права набыць статус слоў літаратурнай мовы. Будзем спадзявацца, што кніга «Самабытнае слова» дапаможа ім дайсці да людзей — трапіць у друк, на тэлебачанне. На жаль, і сама аўтар, відаць, не вызначыла свае адносіны да такіх слоў, бо тады не было б недарэчных, на мой погляд, пазначэнняў: *абл.*, *разм.* Якое можа мець значэнне для мяне, чытача, дзе знайшлі, прыкладам, слова *віскуцень* (вецер, што пранізвае чалавека навылёт і вые) або слова *віша* (трава, што засталася няскошанай на зіму). Мне трэба назваць самабытным словам такія знаёмыя мне з'явы. А таму кожны прыме іх з удзячнасцю. Да таго ж, гэтыя словы ўзятыя з літаратурных твораў, аўтары якіх не належаць да абласных пісьменніцкіх згуртаванняў.

Мяркую, што слоўнік Ірыны Шкрабы будзе выкарыстоўвацца і як тлумачальны. Для сябе асабіста я ўжо зазначыў, што памылкова ўжываю слова *прысвятак*, разумеючы яго як другараднае рэлігійнае свята. (Так, дарэчы, падае ягонае другое значэнне і аўтар «Самабытнага слова».) Але для мяне ўсё ж большы аўтарытэт Уладзімір Дубоўка: ён называў прысвяткам дзень напярэдадні свята. І сапраўды, ці можа быць свята малым або вялікім. Яго ў адным месцы маглі і не святкаваць, а ў нейкім мястэчку ў гэты дзень ладзілі вялікі фэст, бо там знаходзілася бажніца з апекуном — святым, імяніны якога прыпадалі менавіта на гэты дзень. Да таго ж «вялікія» святы ўжо маюць сваю назву — гадавое свята.

Ва ўступным артыкуле да слоўніка Ірына Шкраба піша: «...праблема нацыянальнай лексічнай спецыфікі ўяўляецца... важнай у аспекце лінгвістычным». Думаецца, што пры такім разуменні сваёй задачы аўтар у будучым не абмяжуецца параўнаннем нашых слоў толькі з расійскай мовай, а будзе старацца выявіць безэквівалентную лексіку «ў дачыненні» да іншых славянскіх моў. Тут я вымушаны адступіць ад тэмы і згадаць, што ў свой час маскоўскія даследчыкі з сусветным розгаласам, рыхтуючы слоўнік праславянскай мовы, узяліся вызначаць, колькі ў якой славянскай мове ўласных лексічных адзінак, г. зн. слоў, што больш ні ў якой мове не занатаваныя. Яны налічылі прыблізна шэсць дзесяткаў беларускіх. Нестараннасцю тых даследчыкаў не папракнеш. Але ж яны не маглі ўваскрэсіць з нябыту тыя чатыры мільёны картак-слоў, што былі сабраныя беларускімі мовазнаўцамі ў перадваенныя гады і загінулі без следу. Не ведаюць яны і тых дыялектызмаў, што занатаваны толькі ў студэнцкіх працах або, як у гэтым выпадку, ужытых у літаратурных творах беларускіх пісьменнікаў.

Ірына Шкраба ўзялася за нялёгкую і няпростую справу, але якую ж патрэбную. «Эпоха станаўлення сістэмы значэнняў нацыянальнай мовы — гэта эпоха адлюстравання ў семантыцы слова асаблівасцей псіхалогіі народа, яго светаўспрымання, акалічнасцей працоўнай дзейнасці, а таксама культурна-этнаграфічных традыцый», — напісала аўтар, тлумачачы неабходнасць такога даследавання. Але гэта, як мне ўяўляецца, і эпоха адраджэння асаблівасцей нашай псіхалогіі, светаўспрымання праз адраджэнне слова, якім гэтыя паняцці — самабытныя — пазначаліся, называліся. Пажадаем жа Ірыне Шкрабе спору ў працы.

**П.ПАШКАВЕЦ.**

# ШУКАЙМА ВЫЙСЦЯ

*Дазвольце звярнуць увагу на тыя пэўныя разыходжанні, што існуюць у беларускай транслітэрацыі замежных імёнаў і прозвішчаў. Насамперш гэта тычыцца нашай перыёдыкі. Што я маю на ўвазе? Калі ласка: беларускія выданні робяць з расейца Грыгорыя Явлінскага беларуса Рыгора Яўлінскага, або Барыс Нікалаевіч (Прэзідэнт РФ) раптам становіцца нашым родным Барысам Мікалаевічам. Дык калі ўжо зусім прытрымлівацца такой логікі, то з амерыканца Майкла Джэксана трэба зрабіць прыемнага для айчыннага вуха Міхася Якаўленю, а з прэм'ера Ангельшчыны Джона Мэйджара — да замілавання беларускага Янку і г.д. і да т.п.*

*«Наша ніва», газета, якую я вельмі паважаю, пайшла чамусьці такім самым шляхам, і (мабыць, помсцячы летувісам за тое, што Кастуся Каліноўскага тыя «перахрысцілі» на Костаса Каліноўскаса, В.Ластоўскага — на Ластоўскаса, а да імёнаў князёў Вялікага Княства Літоўскага Вітаўта й Альгерда дадалі сваё нязменнае — ас) у сваім калядным нумары за 1993 г. В.Ландсбергіса і А.Бразаўскаса перайначыла на Вітаўта Лансберга, й адпаведна — Бразоўскага.*

*Імёны людзей павінны сведчыць іхную нацыянальнасць. У гэтым плане правільна рабіў Язэп Найдзюк, калі ў сваёй кнізе «Беларусь учора і сяньня» пісаў наступным чынам: «польскі публіцыст Канстанты Сроковскі», што адпавядае калі не польскаму вымаўленню, дык, ва ўсялякім разе, напісанню. Тое ж зрабіла й газета «Свабода» ў № 34 за 1994 г. пры перадрукоўцы артыкула з «International Herald Tribune» напісала: «...Нікалай Науменка, галоўны рэдактар маскоўскага выдавецтва...», бо «Нікалай» — імя ў дадзеным выпадку расейскае, і не трэба, мяняючы «Н» на «М», аўтаматычна мяняць гэтым самым і нацыянальнасць. Праўда, такі падыход можа нагадаць каму-небудзь сумнавядомую рэформу беларускага правапісу 1933 г., паводле якой трэба было пісаць Владзімір ды Тімафей. Але гэта, вядома, крайнасці.*

*Імя і прозвішча — гэта адна састаўная частка таго, што ў сукупнасці з моваю, менталітэтам, псіхалогіяй і г.д. вызначае прыналежнасць чалавека да тае ці іншае нацыі. І таму неўнармаванасць перадачы чужых імёнаў у сваёй мове лічу за з'яву, якая можа нанесці толькі шкоду. Значыць, трэба шукаць нейкае выйсце.*

**А.ШЭІН.**

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»

*Сымон БАРЫС*

# ЯК У НАС КЛІЧУЦЬ?

## МУЖЧЫНСКІЯ ІМЁНЫ

*(Працяг.)*

**Мікадзім.** Никодим (грэч.) – той, хто перамагае народ. Вытв.: Мікода, Мікодым, Мікандра, Мікадзімка. Імяніны: пр. 24.05; 14, 16.07; 15.08; 12.09; 11.10; 13.11; 26.12; кат. 14.07; 3.08. Імя па бацьку – Мікадзімавіч, Мікадзімаўна.

**Міланег.** Милонег (слав.) утворана ад слоў *мілы* і *нега*. Імя па бацьку – Міланегавіч, Міланегаўна і Міланежыч, Міланежычна.

**Міласлаў.** Мілаш. Милослав (слав.) – утворана ад слоў *мілы* і *слава*. Вытв.: Мілок, Мільчык, Мілусь, Мілаш. Імяніны кат. 25.01. Імя па бацьку – Міласлававіч, Мілаславаўна і Мілашавіч, Мілашаўна.

**Мінай, Міна.** Мина (грэч.) – месячнае святло. Вытв.: Міня, Мінцік, Мінька, Мінак, Мінюк, Мінук. Імяніны: 2.03; 25.04; 7.09; 24.11; 23.12. Імя па бацьку – Мінаевіч, Мінаеўна і Мінавіч, Мінаўна.

**Мірaслаў.** Мирослав (слав.) – утворана ад слоў *мір* і *слава*, што значыць славіць мір. Імяніны 2, 26.02. Імя па бацьку – Міраслававіч, Міраславаўна.

**Мірон, Мірась.** Мирон (грэч.) – той, які пахне *мірай* (ад *міра* – «пахнючы алей», што выкарыстоўваецца ў хрысціянскіх абрадах). Вытв.: Мірончык, Міронка, Міроня, Мірка, Міроська; Мірцік, Мірук, Міраш. Імяніны: пр. 21, 30.08; кат. 17.08. Імя па бацьку – Міронавіч, Міронаўна і Мірасевіч, Мірасеўна.

**Мітрош. Мітрафан.** Митрофан (грэч.) – падобны да маці. Разм. Мітрапан. Вытв.: Мітрафанка, Мітрафаначка, Мітрош. Імяніны: 17.06; 6.07; 20.08; 6.12. Імя па бацьку – Мітрошавіч, Мітрошаўна і Мітрафанавіч, Мітрафанаўна.

**Міхась. Міхал.** Михаил (яўр.) – той, хто як Бог. Вытв.: Міша, Мішка, Мішаня, Мішачка, Мішок, Мішук, Мішанька, Мішучок, Мішуля, Мішулька, Мішун, Мішуня, Мішунік, Мішунчык, Мішура, Мішута, Мішуцік, Мішуха, Міхалка, Міхалюк, Міхалюта, Міхайла, Міхалік, Міхаська, Міхасік, Міхасечак, Міхалок. Імяніны: пр. 24.01; 27.02; 27.03; 20.05; 3, 5.06; 6, 27.07; 11.08; 19.09; 3, 13, 14.10; 21.11; 31.12; кат. Міхал – 10.04; 23.05; 29.09; 29.10. Імя па бацьку – Міхасевіч, Міхасеўна і Міхалавіч, Міхалаўна.

**Міхей.** Михей – магчыма, паходзіць ад імя *Міхаіл*. Вытв.: Мінцік, Міхук, Міхно. Імя па бацьку – Міхеевіч, Міхееўна.

**Мсціслаў.** Мстислав (слав.) – утворана ад слоў *мсціць* і *слава*. Вытв.: Слава, Слаўка, Славік, Слаўця, Слаўчык. Імяніны: пр. 27.06; 6.07; кат. 8.01. Імя па бацьку – Мсціслававіч, Мсціславаўна.

**Мялешка. Мялеці.** Мелетий (грэч.) – клапатлівы. Імяніны: пр. 25.02; 6.06; 4.10; кат. 12.02. Імя па бацьку – Мялешкавіч, Мялешкаўна і Мялецьевіч, Мялецьеўна.

**Мяленцій.** Мелентий паходзіць ад імя *Мелетий*. Імя па бацьку – Мяленцьевіч, Мяленцьеўна.

**Мяркул.** Меркул. Імя па бацьку – Мяркулавіч, Мяркулаўна.

**Мяркур.** Меркурий, паходзіць ад назвы планеты. Вытв.: Мяркурка, Мяркуш. Імя па бацьку – Мяркур'евіч, Мяркур'еўна.

**Мяфёд, Міхед.** Мефодий (грэч.) – арганізаваны, мэтанакіраваны. Імяніны: пр. 19.04; 24.05; 17, 27.06; 3.07; кат. 14.02; 7.07. Імя па бацьку – Мяфёдавіч, Мяфёдаўна, Міхедавіч, Міхедаўна.

*(Працяг будзе.)*

СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**
**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**
**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**
**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Ад рэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

* * *

*Паважаны сп.рэдактар! З апазненнем, но з вялікай цікавасцю прачытаў верш сп. У.Жыгалкі («Наша слова», № 27 (187), 6 ліпеня 1994 г.) «Створым гімн Беларусі...»*

*Я не паэт. Я не эксперт па такіх справах. Але, усё-такі, хачу падзяліцца сваімі думкамі.*

*1. Музыка Сакалоўскага. Я асабіста прашу прапановы сп.Жыгалкі, каб прыняць ці дастасаваць музыку Сакалоўскага пад гімн. Справа ў тым, што: а) Гэта многім людзям, якія процiў беларушчыны, розным арганізацыям тыпа «Белая Русь» і т.д. аказыю для насмешкі і іроніі. Будуць гаварыць і пісаць, што Новы Гімн застаў украдзены ад БССР-аўскага. Пры выкананні Новага Гімну з старой мелодыяй будуць ужываць не Новыя, а старыя словы! б) Дзеля таго што мелодыя старая, многа і нявінных людзей будуць ужываць старыя словы, — бо да гэтага прывыклі! Будзе канфузія.*

*Для прыкладу, якія б новыя словы ні пісалі да «Інтэрнацыянала», людзі заўсёды, машынальна, спявалі б Вставай, проклятьем заклеймённый...» Аналогія тут відавочна.*

*в) Прыняць старую мелодыю было б абразай для цяперашніх беларускіх кампазітараў. Выглядзіць, што яны не здольны скампанаваць новую мелодыю для гімна. Я ў гэта не веру. Да простага тэксту лёгка напісаць новую мелодыю.*

*2. Тэкст прапанаванага Гімну сп. У.Жыгалкі.*

*На маю думку, тут ёсць многа добрага, патрыятычнага. Але яго трэба трохі перарабіць, «перашліфаваць», справіць. Вось мае папраўкі:*

*4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг!*
*5. Хай жа ніколі ён не загіне!*
*6. Бог абароніць нам Беларусь!*

*А можа слова «Беларусь» замяніць другім. Толькі не Белую Русь.*

*17. Край наш спакойны, мілы ды моцны.*
*Не ўжываць слова Белая Русь (глядзіце вышэй)*
*18. Рэкі павольныя, светлыя тут.*
*19. Ціха гамоняць бярозы ды сосны...*
*20. Любіць нам трэба родны наш кут!*
*21. Хай жа ніколі і т.д.*
*(Не ўжываць слова Белая Русь, глядзі вышэй).*

*Думаю, лепей такіх слоў як «Белая Русь» не ўжываць. Слова «мірны» (у арыгінале) для мяне звучыць па-расійску.*

*3. Радок... «цешце, нашчадкі...» добры. Але мне не вельмі падабаецца слова «цешце» ў гэтым кантэксце.*

*4. У прыпеўках ёсць малая розніца. Ці гэта памылка ці наўмысна? У першай прыпеўцы ёсць радок «Наша адданасць — Вольнай Радзіме!..» У другой і трэцяй гэты радок зменены на... «...наша адданасць — мілай Радзіме!..» Слова «вольнай» заменена «мілай».*

*Чаму, на маю думку, слова «Белая Русь» не трэба ўжываць? Бо з гэтым словам цяпер звязаны антыбеларускія, імперскія, экспансіўныя, прарасейскія арганізацыі. Яны гэты назоў прысвоілі сабе. Гэта рэчаіснасць.*

*З пашанай*

***М.ШВЭДЗЮК,***
***інжынер.***
Рэгбі, Англія.

# ЗВЕСТКІ ДЛЯ РОЗДУМУ

Як і было дамоўлена, не ўмешваючыся ў спрэчкі наконт тэксту гімна — тут слова толькі за чытачамі, мы ў рэдакцыі палічылі неабходным даць некаторыя дадатковыя звесткі пра аўтара музыкі былога гімна БССР Н.Сакалоўскага. Узгадаем перш-наперш меркаванне У.Жыгалкі — мелодыя багатая, вельмі беларуская і ставіцца да яе з пагардай не варта. Падобную думку даводзілася таксама чуць ад знаўцаў з іншых краін, у тым ліку калекцыянера гімнавых мелодый з Кішынёва (ёсць, аказваецца, на свеце і такое хобі-захапленне).

Але перад тым як перайсці да размовы пра асобу кампазітара Н.Сакалоўскага, давайце прыгадаем ранейшы тэкст гімна. Не будзем казаць пра тое, што гэта ўсё ж не тэкст «Інтэрнацыянала» і праз якое пакаленне ён забудзецца ўшчэнт. Ды і зараз мала хто, відаць, успомніць «з ходу» тры-чатыры страфы. Ну хіба што першы радок. То і прачытаем яго «на развітанне» больш уважліва: «Мы, беларусы, з братняю Руссю разам шукалі к шчасцю дарог...» Што разам шукалі — граху няма. Але ж давайце ўспомнім, што вельмі аўтарытэтныя расійскія гісторыкі (адзін з іх — Леў Гумілёў) прызнаюць: Русь загінула ажно ў 14 стагоддзі, а з канца 14 стагоддзя нарадзілася Расія — зусім іншая дзяржава! То з кім і калі мы нешта шукалі?

Цяпер яшчэ адзін радок з бэсэсэраўскага тэксту гімна, які сведчыў пра беларускае супраціўленне асімілятарам і звышінтэрнацыяналістам — услаўленне менавіта беларускага народа і напамінак, што мы ўсё-такі «вольныя людзі» і будзем вечна(!) імкнуцца жыць на сваёй «вольнай зямлі». Як бачым, тэкст вельмі няпросты, нягледзячы на «Леніна імя» і яшчэ такія-сякія савецкія аксесуары.

Што да кампазітара, то Несцер Фёдаравіч Сакалоўскі (нарадз. ў 1902 г. у в.Вешкі Докшыцкага павета, памёр 13.11.1950 г.) — адзін з тых руплівцаў беларускай музычнай культуры, якім мы можам па праву ганарыцца. Меў грунтоўную музычную адукацыю, у маладыя гады быў хормайстрам-кіраўнікам самадзейных хароў. Затым — адзін з арганізатараў і хормайстар Ансамбля беларускай народнай песні і танца Беларускай філармоніі і ў той жа час сам — аўтар многіх хароў, песень, інструментальных мініяцюр, вакальных сюіт на тэмы беларускіх народных песень. З песень на вершы беларускіх паэтаў дастаткова прыгадаць хоць бы «Песню пра Нёман» (на верш Анатоля Астрэйкі).

Знаўцы нязменна адзначалі глыбокую беларускасць ягоных мелодый. І гэта невыпадкова, калі ўлічыць, акрамя адметнага прыроднага таленту, зразумела, што Несцер Сакалоўскі за сваё жыццё, пачынаючы з маладых гадоў, запісаў і апрацаваў больш 500(!) беларускіх народных песень (у тым ліку такія вядомыя дзякуючы яму як «Ой ты, белая бярозанька», «Чабарок», «Чаму зязюля не кукавала») і найгрышаў. Так што няма чаму дзівіцца, што і мелодыя гімна БССР, якую ён стварыў, аказалася прасякнутай беларускасцю, што, магчыма, нават паўплывала на пэўную «нацыяналістычнасць» літаратурнага тэксту. Словам, неабачлівымі мы былі б гаспадарамі, каб не ўлічвалі тое, што напрацавалі нашы таленавітыя папярэднікі.

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

* * *

*Шаноўная рэдакцыя, хачу далучыцца да справы сумеснага стварэння гімна. Трэці і пяты куплеты ўзяты з тэкстаў Міколы Валошыка і Восіпа Рагонькі з частковай перапрацоўкай. Слова «зара» — рускамоўнае, і ў беларускім гімне не павінна ўжывацца.*

*З павагай*

*Мікалай НАСКО.*
*г.Менск.*

***Мы, беларусы, — вольныя людзі,***
***Вольнымі будзем жыць у вяках.***
***Нас акрыляе сімвал Радзімы —***
***Бел-чырвона-белы мужнасці Сцяг.***

***Славім у песнях нашу Айчыну,***
***Край свой багаты, мужны народ —***
***Гордых і слаўных нашчадкаў Скарыны,***
***Хай жа заўсёды жыве Беларусь!***

***Вышаў народ наш з мужнай кагорты.***
***У бітве Грунвальдскай свой гонар набыў.***
***Падаў за волю трэці, чацвёрты,***
***Пакуль свабоду сваю не здабыў.***

***Славім у песнях нашу Айчыну,***
***Край свой багаты, мужны народ—***
***Гордых і слаўных нашчадкаў Скарыны,***
***Хай жа заўсёды жыве Беларусь!***

***Працаю дружнай, мір дзе і згода,***
***Светлага заўтра сустрэнем усход.***
***І сярод родных краін і народаў,***
***Жыві і квітней, беларускі народ.***

***Славім у песнях нашу Айчыну,***
***Край свой багаты, мужны народ —***
***Гордых і слаўных нашчадкаў Скарыны,***
***Хай жа заўсёды жыве Беларусь!***

* * *

Шаноўная рэдакцыя, прабачце мне, але я жадаю адказаць некаторым чытачам «Нашага слова», якія прапануюць адмовіцца ад тых ці іншых слоў у прапанаваным мной тэксце.

Па-першае, наконт ужывання ў гэтым тэксце слова «Бог». Можа, хтосьці застаўся яшчэ атэістам, а хтосьці зараз ужо вельмі набожны стаў — гэта іх асабістая справа! А ў гэтым тэксце слова Бог азначае «сусветны закон», а не менавіта Хрыста ці іншага каго. Калі ў Беларусі будзе заўсёды панаваць Закон, дык, зразумела, тут усё будзе, як належыць быць. І не трэба палохацца слова «БОГ»...

Увогуле, хацелася б падкрэсліць стаўленне да народа Беларусі, яго лёсу. Таму я прапаную змяніць у 12-м і 15-м радках словы «слаўны» і «мілай» на словы «мужны» і «мужнай». Гэта будзе гучаць так:

11. Веліч Радзімы — мужнасць Народа,
12. Люд Беларусі — мужны народ!
.................................
.................................
15. Наша адданасць — мужнай Радзіме!
16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!

І яшчэ заўвага — наконт «апісальнасці» тэксту. Жадаем мы гэтага ці не жадаем, але павінны ставіцца да нашага краю з пяшчотай і ласкай, калі хочам, каб жыццё ў ім было «заможным і радасным». Таму лірычныя радкі пра наш край з'яўляюцца не толькі «апісальнымі», яны яшчэ надаюць такі патрэбны ўзнёсла-аптымістычны настрой гімну:

17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,
18. Рэкі павольныя, светлыя тут.
19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...
20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!

Толькі адно слова «светлыя» (рэкі), якое гучыць няўдала, патрэбна замяніць на слова «ціхія», якое падкрэсліць усю веліч і хараство беларускай прыроды...

І яшчэ, хацелася б выказацца аб «палітычнай афарбоўцы» гімна. Гімн, увогуле, з'яўляецца сімвалам, які не выклікае нязгодаў у грамадстве. Таму проціпастаўляць у ім нейкія палітычныя сімвалы і назвы — немагчыма! Незразумела, чаму хтосьці асэнсаваў назву «Белая Русь» толькі як палітычны сімвал? Спадары даражэнькія, Белая Русь — гэта Беларусь (у тэксце гімна ўвогуле, як і ў іншым вершы, пануе закон рыфмы)! Таксама, можна заўважыць і наконт сцяга, які бела-чырвона-белы — гэта наш дзяржаўны сцяг. Таму не трэба яго асэнсоўваць, як «цяжкі, крывавы шлях»! Не трэба «падымаць штандары ўгору», хай у грамадстве пануе згода!

Вось такі мой каментар да ўзорнага тэксту. Хацелася, каб усе прапановы чытачоў «Нашага слова» ўносілі ў гэты тэкст толькі добрую плынь, бо ў Беларусі наперадзе толькі адзіны шлях — шлях Міру і паразумення! Шлях Вайны нам болей не патрэбны, таму ён у гэтым тэксце чужы...

З павагай да ўсіх

**Уладысь ЖЫГАЛКА.**

ВЫДАННІ ТАВАРЫСТВА

# «МЫ НЕ ПРОСІМ — МЫ ПАТРАБУЕМ!»

Пад такой назвай у серыі «Наш вечны зніч» ТБМ імя Ф.Скарыны нядаўна выпусціла брашуру, якая складаецца з лістоў нашых грамадзян у абарону дзяржаўнасці роднай мовы, накіраваных Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь. Нагадаем, што брашуру — зборнік аналагічных дакументаў «Голас народа — голас Божы» — Таварыства выдала летась. У абодвух выпадках рэдактарам матэрыялаў, уключаных у брашуру, з'яўляецца старшыня ТБМ, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Прадмова рэдактара, зробленая да першай брашуры «Сведчанне волі народа», зусім не страціла сваёй злабадзённасці і зараз, бо наскокі ворагаў беларушчыны на дзяржаўны статус матчынай мовы не спыніліся. І гэта, падкрэслім, не зважаючы на тое, што дзяржаўнасць роднага слова сёння ўжо замацавана Канстытуцыяй — Асноўным Законам нашай краіны.

У новым выданні змешчана больш за сто фрагментаў з індывідуальных і калектыўных лістоў, тэлеграм і зваротаў да дэпутатаў вышэйшага органа ўлады нашай краіны. Аўтары іх — людзі самыя розныя, ад дзяцей і падлеткаў да сівых, заслужаных ветэранаў. Іх аб'ядноўвае найперш тое, што ўсе яны аднадушна пратэстуюць супраць незлічоных спроб антыбеларускіх сіл скасаваць дзяржаўнасць нашай спрадвечнай мовы. Асабліва прыкметна рашучая і бескампрамісная пазіцыя, якую пры абароне беларушчыны займае наша нацыянальна свядомая моладзь. Нельга, напрыклад, без хвалявання чытаць радкі дваццаці вучняў восьмага-дзевятага класаў Макашоўскай базавай школы з Міёршчыны: «Мы... звяртаемся ў Вярхоўны Савет... з катэгарычным пратэстам супраць увядзення ў нашай рэспубліцы другой дзяржаўнай мовы — рускай. Мы — беларусы і вучыцца ў школах і ВНУ хочам на роднай мове. Не адбірайце яе ў нас!» І падобныя дакументы ў брашуры — не адзінкавыя.

А вось як трапна выказаўся Васіль Іванавіч Кухто, пенсіянер, ветэран працы з Віцебска: «Лічу, што ўвядзенне расейскай мовы ў ранг дзяржаўнай у Беларусі прывядзе да знішчэння беларускай мовы, а разам з ёй і беларускага народа. Людзі, якія не маюць ніякага пачуцця беларускай нацыянальнай годнасці, якія не ведаюць ні беларускай мовы, ні беларускай гісторыі (беларускія манкурты), разам з расейскімі нацыянал-шавіністамі не хочуць бачыць Беларусь суверэннай, незалежнай і нейтральнай, і таму выступаюць за двухмоўе, бо разумеюць, што гэта прывядзе Беларусь зноў у Расейскую імперыю. Беларусь павінна быць толькі незалежнай дзяржавай, і дзяржаўнай мовай у нас павінна быць толькі беларуская».

Такім чынам, выказванні аўтараў, апублікаваныя ў згаданай брашуры, уяўляюць сабой агульны пункт гледжання нацыянальна свядомых грамадзян нашай краіны на найважнейшыя праблемы сённяшняга жыцця Рэспублікі Беларусь — дзяржаўны суверэнітэт і незалежнасць, ад рэалізацыі якіх залежыць будучыня кожнага з нас і, значыць, усёй нашай Бацькаўшчыны. Менавіта таму грамадскую значнасць апошняга выдання ТБМ увогуле пераацаніць цяжка.

# «РАГНЕДА»: НОВЫЯ НУМАРЫ

«Наша слова» ўжо змяшчала кароткія агляды матэрыялаў штомесячнай газеты «Рагнеда», якая выдаецца ў Салігорску мясцовай арганізацыяй ТБМ імя Ф.Скарыны. З некаторым спазненнем (не па віне грамадскай рэдакцыі) выйшлі ў свет яе чарговыя нумары — чацвёрты (аб'яднаны чэрвеньска-ліпеньскі) і пяты (жнівеньскі).

У аб'яднаным нумары прыцягвае ўвагу рэдакцыйны артыкул «Якую спадчыну пакінем?..», апублікаваны на першай і трэцяй палосах пад рубрыкай «Таварыству беларускай мовы — 5 гадоў». Тут сцісла расказваецца аб стварэнні арганізацыі ТБМ на Салігоршчыне, аб тых праблемах, з якімі давялося сустрэцца руплiўцам роднага слова ў гэтым рэгіёне, аб тым, што ім ужо ўдалося зрабіць і што яшчэ чакае свайго вырашэння.

У нумары таксама — цудоўны артыкул Янкі Купалы «Ці маем мы права выракацца роднай мовы», напісаны Песняром яшчэ ў 1910 годзе, але злабадзённы, як ніколі, і зараз. Тут жа — эмацыянальныя, прасякнутыя болем за лёс роднай мовы радкі рэдактара газеты Марыі Мацюкевіч (артыкул «Мне сорамна перад нашчадкамі»), роздум вядомага паэта Кастуся Цвіркі «Сем раз адмераць — раз адрэзаць», выступленне В.Мурылёва — старшыні Салігорскай грамадскай кантрольнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іншыя матэрыялы.

Жнівеньскі нумар «Рагнеды» пад рубрыкай «Паданні даўніны сівой» знаёміць з краязнаўчымі легендамі, прысвечанымі ўзнікненню тапонімаў Капыль і Нясвіж. Доктар тэхнічных навук, менскі прафесар Аляксей Саламонаў спецыяльна для газеты падрыхтаваў гістарычнае даследаванне «Княгіня Прадслава — роданачальніца беларускай дзяржаўнасці», які прапануецца чытачам. Адзначым, што канцэпцыя аўтара даволі арыгінальная, зусім не традыцыйная, якая заслугоўвае дэталёвай увагі перш за ўсё сваёй навізной, але патрабуе ўдумлівага аналізу і асэнсавання. На паэтычнай старонцы газеты — вершы Лявона Случаніна, Вікі Клявец, Андрэя Кардаша, Марыі Мацюкевіч.

Завяршаюць нумар карысныя гаспадарчыя парады, тлумачэнне беларускіх тэрмінаў роднасці і сваяцтва, падборка народнага гумару.

Хочацца пажадаць светлагорскай «Рагнедзе» далейшых творчых удач і, галоўнае, каб кола яе чытачоў пастаянна расло.

**Мар'ян ВІЖ.**

МУЗЕІ

# ГІСТОРЫЯ ЖЛОБІНШЧЫНЫ СА СТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА НАШЫХ ДЗЁН



Амаль тры гады дзейнічае ў Жлобіне гарадскі гісторыка-краязнаўчы музей, дзе сабраны шматлікія дакументы, матэрыялы і экспанаты, якія асвятляюць гісторыю Жлобіншчыны са старажытных часоў да нашых дзён.

За гэты час музей наведала сорак тысяч чалавек. Не сядзяць у «чатырох сценах» і самі работнікі музея, у школах, вучылішчах раёна і горада імі прачытаны дзесяткі тэматычных лекцый, неаднаразова арганізоўваліся перасоўныя выстаўкі.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

**На здымку**: Так выглядае зала № 1 музея, дзе сабраны матэрыялы і экспанаты па этнаграфіі Жлобіншчыны.

Фота **Аляксандра ШАЙНОВА**.

І СМЕХ І ГРЭХ

# МОВА І КАЎБАСАТВОРНАСЦЬ

## (Спроба параўнальнага аналізу ў сусветным разрэзе)

Пошукі каўбасатворных моў — гэта вам не трызненне пра свяшчэнны кубак Грааля. Той шукалі рыцары-адзіночкі, пра каўбасу мрояць цэлыя працоўныя калектывы і нефармальныя групы — натоўпы. У сувязі з чым апошнімі гадамі ў сувязі з суверэннасцю шэраг грамадзян распачаў узмоцнена папікаць беларускую мову за нізкую каўбасатворную здольнасць, імпліцытна даводзячы нашым суайчыннікам, быццам менавіта яна вінаватая ў адсутнасці згаданага прадукту. У самай агульнай форме іхні папрок гучыць так: «Ад таго, што мы загаворым па-беларуску, каўбасы болей не стане».

Што і казаць — папрок не абы-які. Трэба думаць, недаспана не адна ноч, папракае іўрыт альбо ідыш за нізкую каўбаса- і кумпякатворную здольнасць. Ніхто не агітуе руандзійцаў спешна ўжываць мову галандцаў, каб на кожным кактусе раслі сасіскі з грэнкамі. Няма здольнасцей да каўбасатворнасці ў арабскай мове, у пушту і фарсі. Да чаго ўжо туркі — еўрапейцы, але зацята маўчаць наконт пераходу на нямецкую дзеля свінога разрубу. Дарэчы, наконт нямецкай... Гэта, бясспрэчна, адна з самых свіналюбівых і каўбасатворных моў. Хоча дойч сказаць, што яму шэнціць, скажа «іх габе швайн», як зарэжа свінню, тут вам і «швайнфэст». Нават нацыянальны герой у іх «Гансвурст», Ганс-каўбаса.

Але ж і ў нас ёсць дэпутат Каўбаска! пакуль не выспела перакананне.

Я ж сцвярджаю: каўбаса і кумпякатворныя магчымасці нашай мовы далёка не спазнаныя. Канешне, калі браць у сусветным кантэксце, неяк смешна папракаць мову за адсутнасць чаго-небудзь. Скажам, эстонскую — за малую наяўнасць паноў і паненак. Гэта прывілея польскай мовы. Украінская мала здольная да здабычы дыяментаў — гэта болей да твару якуцкай і афрыканскай. У літоўцаў апошнім часам мала вывозіцца гною на палі... Але гэта ж наша адметнасць ад астатніх, каб сказануў слоўца — а ў адказ адкуль ні вазьміся каўбаса!

І ўсё ж зазначу сувязь паміж беларускай мовай і каўбасою — не трызненні славянасаборшчыкаў. Нагадаю: нават у часы, калі беларуская мова была прывілеяй Саюза пісьменнікаў і ЦК КПБ, вітрыны нашых крамаў упрыгожвалі свіныя костачкі. «Кость пищевая» было напісана на этыкетках. І гэта не былі косці ад сланоў ці мамантаў. Яны былі ўзяты з нашых беларускіх свіней — сыравіны для каўбас. Беларусь першая ў СССР выканала Харчовую праграму! — радаваліся за нас кампартыйныя прапагандысты.

А свіныя ножкі! Былі, былі... А каўбасы? Былі, але вось ператраўліваліся не нашымі страўнікамі. Не адну грыжу нажылі сабе жыхары якога-небудзь Каўрова ці Іванава, цягаючы на сабе заплечнікі з нашаю каўбасою з белакаменнай Масквы. Нам заставаўся халадзец і гіганцкія свінакомплексы. Уся Беларусь адчувала іхні непаўторны водар.

Дзіўна: чамусьці ніхто ў Ізраілі не

Тым часам факт масавага экспарту мяшэчнікамі нашай каўбасы на Усход яскрава сведчыць, што яе радовішчы на Беларусі далёка не вычарпаныя. Развейваецца міф, што ўсходняя мова болей здатная да каўбасафармавання.

Не кожная ўсходняя мова кітайская, панове!

Як бачым, няма аніякіх падстаў папікаць нашу беларускую мову ў адсутнасці каўбасы. Хутчэй наадварот — чым болей будзе беларускай мовы, тым болей з'явіцца каўбасы. І не толькі славутай ліверкі, што атруціла не адно пакаленне аматараў.

Вузкалоба спыніўшыся на каўбасе, нашы папракальшчыкі зусім не зважаюць на кумпякі. А дарэмна. Цудоўнае вынаходніцтва прафесара Замяціна — не, не таго, што напісаў «МЫ», а Мітрафана — я маю на ўвазе чорна-пярэстую пароду дзюдак — дае падставу самаму радаснаму аптымізму. Дэталёвае вывучэнне пароды сведчыць пра магчымасць гадоўлі шматкумпяковых свіней (чатырох, шасці і болей). І гэта цалкавіта і выключна магчыма толькі на грунце беларускай мовы. Мне проста страшна будзе пазіраць на тых, хто будзе вывучаць гэтак званыя «замежныя мовы», мала прыдатныя да выпуску кумпякоў.

Але дзе гарантыя, што, чвякаючы каўбасою і сутаргава абшчаперыўшы запасныя кумпякі, беларусафобы не стануць яўкаць пра слабую гарчыцатворную здольнасць беларускай мовы?!

**Мікола БУСЕЛ.**

в.Дуброва.

*Зоран БОЖАВІЧ*

# РЭДАКТАРСКІЯ КЛОПАТЫ

Панядзелак — дзень самы цяжкі ў нашага вядомага гумарыста і рэдактара часопіса «Вясёлая поўнач».

— Алё, алё! — накручвае ён яшчэ далёка да паўдня. — Здароў, П'ер! Як справы?.. У мяне таксама. Ды вось хачу пацікавіцца, як там, пойдзе маё?.. У наступным?.. Добра. А тваё «Нічога без сувязяў» ставім у святочны нумар... О-о-о, браце, у гэтай кампаніі пра сумленне ды сорам не згадваюць. Яны ўтварылі сваё шчыльнае кола і больш нікому надрукавацца не даюць... А ты іх добра пекануў!.. Пра што размова, дасылай. Не турбуйся. Бывай! Усяго!

Наш прызнаны гумарыст кладзе трубку, задаволена пацірае рукі. Потым зноў хапаецца за тэлефон і набірае новы нумар.

— Міша, ты?.. Вітаю, дарагі! Ну, як пасля ўчарашняга?.. Ха-ха-ха! Цудоўна!.. Шкада, мяне з вамі не было. Цэлы дзень карпеў. Ды нешта выйшла... і вось падумаў... Кажаш, магу разлічваць на чацвер? Выдатна! А я званіў Раку і нагадаў пра твайго «Нябеснага інспектара». Усё ў парадку, прынята і ўжо ў друк падпісана... Давай, Міша, прынось яшчэ што-небудзь. Поспехаў табе!

Наш рэдактар кладзе трубку і весела пасвіствае. Тым часам званок.

— Слухаю! Так, я... А, Макс? Здароў! Чым магу быць карысны?.. Што-небудзь для вас?.. Чаму ж не, чаму... Прышлю я табе адну бомбачку! Загадзя пераказваць не буду. Сам убачыш... Што?! Твой «Сон пенсіянера» яшчэ не надрукаваны ў Белага? Не можа быць! Ён асабіста мне абяцаў. Гэта нейкая памылка... Не хвалюйся, я пазваню яму і высветлю, у чым справа. На крайні выпадак — у маёй «Вясёлай поўначы» табе плошча забяспечана.

І наш знакаміты гумарыст набірае яшчэ адзін нумар.

— Алё! Я б хацеў перамовіцца з калегам Белым... Што? У ад'ездзе?.. А хто замяняе — Петравіч?.. Ёванавіч?!.. Вельмі прыемна, калега Ёванавіч... Спадзяюся, вы знойдзеце хвіліну і заскочыце да мяне, каб падмацаваць наша знаёмства... Пэўна ж. Я хацеў пацікавіцца наконт гумарэскі «Сон пенсіянера»... Белы мне абяцаў... Слабая?! Ды Белы... Сам Белы? Як гэта? Вы ў прынцыпе не друкуеце слабых рэчаў?.. Э-э, з такім прынцыпам, калега, вы далёка не зойдзеце. Хто тады будзе друкаваць вашы творы?.. Як вы сказалі?.. Не пайшла ў мяне ваша гумарэска «Хуліганы»! Ды я ж не ведаў, што гэта ваша... Алё, алё!.. Цьфу, д'ябал, трубку кінуў!.. Боўдзіла!.. А Белы чамусьці не папярэдзіў, хто яго будзе замяняць...

Наш рэдактар патупаў нервова каля стала, паскуб сябе за вус і выклікаў сакратарку:

— Вось што, здыміце «Анёлаў» Петравіча! Я толькі што прагледзеў яшчэ раз. Не падабаецца. Заменім «Хуліганамі» Ёванавіча. І не забудзьцеся паведаміць пра гэта аўтару, Ёванавічу. Прашу вас, без адкладу!

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.*

# ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»

* * *

*— Дзе ты так забрудзіўся?*

*— Перавярнуўся і ўпаў у лужыну.*

*— І ў гэтым новым касцюме...*

*— Гэта сталася так хутка, што я не паспеў распранууца...*

* * *

*— Якая розніца паміж капіталізмам і сацыялізмам?*

*— У капіталізме, калі нехта ранiцай голасна дабіваецца да дзвярэй, гэта напэўна разносчык малака.*

* * *

*— Як табе жывецца? Цяпер, пэўна, у цябе больш часу? За «камуны» ты ўсё наракаў, што час траціш у чэргах.*

*— Ды і цяпер не лепей. Колькі часу трэба, каб абысці ўсе крамы, даведацца, дзе танней купіць можна...*

* * *

*— Ці ты кахаеш мяне, любы? — пытае «старая» дзяўка свайго маладшага на пяць гадоў кавалера.*

*— Ты, Зося, павінна ведаць, што ёсць тры віды кахання: фізічнае, платанічнае, спалучэнне з каханнем асобы і яе маёмасці, і партнёрскае, якое спалучае папярэдні з узаемнай дапамогай каханай асобе.*

*— А якога кахання я вартая, мой мілы?*

*— Твайго багацця хопіць нам на ўсё жыццё. Секс прыйдзе сам, а як з партнёрствам будзе, я не ведаю.*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Югеn Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 41

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7251 паасобнік
Падпісана ў друк 10.10.1994 г. у 15 гадзін.